# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968

Ліпень-Жнівень

Год XVI

№ 4 (109)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XVI July-August № 4 (109)
1968

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI — ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ 1968 — № 4 (109)

# ГОД ВЕРЫ — 1967-1968

1900 гадоў — XIX стагодзьдзяў — Вялікі ЮБІЛЕЙ Сьв. Апосталаў ПЯТРА і ПАЎЛА: гэты год пачаўся 29. VI. 1967 і ў гэты-ж дзень 1968 закончыўся. Азначаны быў як «ГОД ВЕРЫ» на памятку мучаніцкай сьмерці, якую ў 67 годзе 29 чэрвеня перацярпелі гэтыя Сьвятыя Апосталы.

Разважалася перадусім іх моцная і жывая вера ў жыцьці і сьмерці: яны апавядалі жыдом і паганам Сьв. Эвангельле — вучылі іх жыць па хрысьціянску — любіць Бога і бліжняга. І вось Апосталы за гэтую веру і любоў былі суджаныя, мучаныя і забітыя: Сьв. Пётр — укрыжаваны, а Сьв. Павал сьцяты мячом. Абодвы закочылі жыцьцё ў Рыме: Пётр на ўзгорку Ватыкану, а Павал за сьценамі гораду.

У працягу гэтага «Году Веры», як яго назваў Павал VI, вялікія масы пілігрымаў наведалі Рым і ў ім базыліку Сьв. Пятра і Паўла: там аддавалі паклон рэліквіям (мошчам) Сьв. Апосталаў-Мучанікаў.

Цяперашні збаламучаны сьвет, праняты поступам навукі і выгодамі жыцьця на зямлі, лёгка забываецца аб Богу і аб сваёй несьмяротнай душы. О, каб Сьв. Апосталы навучылі нас сваім прыкладам — верай, надзеяй і любоўю, што дачаснае жыцьцё хутка прамінецца, а вечнае нас чакае! — Дык пры ўсялякіх пераменах на сьвеце — і ў вайне і ў супакою, у памысьнасьці і цяжкасьцях — мы павінны шчыра верыць у Бога і служыць Яму ўсім сэрцам.

*

І гэты год памятны немалымі падзеямі ў царкоўным жыцьці: 29. IX. 1967 адбыўся ў Ватыкане Сынод Каталіцкае Царквы. Гэта быў Кангрэс прадстаўнікоў ад біскупаў цэлага сьвету з усіх народаў і дзяржаваў, прадстаўнікоў ад кардыналаў і манастыроў — лацінскіх і ўсходніх каталіцкіх абрадаў.

Сынод сьцісла разважыў, як уводзяцца ў жыцьцё дэклярацыі, дакрэты і наагул пастановы Сабору, каб рэформы не асталіся толькі жаданьнем, але сталі самым жыцьцём Царквы. Дзеля таго і называюць Сынод «Малым Саборам», як-бы працягам Сабору, а сам Папа і духавенства і вернікі пераканаліся, як мудрай была ідэя склікаць Сынод для лепшага кіраваньня Царквою.

*

І ў гэтым годзе здарыўся юбілей, 50 гадоў аб'яўленьня Божае Маці ў Фатыме ў Партугаліі. І тое, што сабралася там больш мільёну народу, і тое, што Папа Павал VI асабіста прыбыў у Фатыму 13. V. 1967, сьведчыць, што Фатыма стала другім Люрдам — месцам вялікай Божае ласкі праз Дзеву Марыю, якая — пры пасрэдніцтве траіх малых дзяцей — Люцыі, Яцынты і Францішка — заклікае ўсіх людзей да пакуты за грахі асабістыя і за грахі ўсяго сьвету.

У сваёй прамове-казаньні (у партугальскай мове) Павал VI заклікаў увесь сьвет да згоды, гаварыў аб патрэбах сьвету, асабліва аб голадзе. Гэта быў гарачы апэль да ўсяго чалавецтва, што людзі толькі веручы ў Бога, могуць жыць сапраўды палюдзку — пабратэрску, ахвярна памагаючы адны другім.

А тымчасам у гэтым годзе выбухла гвалтоўная вайна ў Афрыцы, у Нігерыі: там бойкі народ Ібу ў Біяфры дабіваецца незалежнасьці. Аднак мацнейшыя згуртаваныя нігерыйцы ня хочуць даць ім свабоды і прымушаюць сілай паддацца дзяржаўнаму рэжыму. На большую трагедыю складаецца і тое, што ў Нігерыі пераважаюць магамэтане, калі Біяфра больш краіна хрысьціянская. А тымчасам у падмогу нігерыйцам вялікія краі Эўропы памагаюць уціскаць няшчасных, пакрыўджаных і галодных у Біяфры, пасылаючы аружжа ўласна крыўдзіцелям!... (Англія і Сав. Саюз).

Тымчасам сьвет паглядае на трагедыю Біяфры і ня можа, ці ня хоча, ці ня ўмее? памагчы хворым і галодным дзецям, бо Нігерыя не прапускае прадуктаў, ані мэдычнае помачы праз сваю тэрыторыю. А калі і прапускае, дык Біяфра ня можа прыняць, бо прыходзяць прадукты і лекі . . . затрутыя ворагам!

Біяфра паказвае на гэты відавочныя факты . . . Дык што-ж рабіць? Нават і найлепшыя людзі апускаюць бездапаможна рукі ! . .

*

Рым, Італія і ўвесь сьвет успомнілі памёршага, 5 гадоў таму, ў 1963, на Зялёныя Сьяткі Папу Яна XXIII-га. Памяць аб ім не памірае, асабліва Рым успамінае яго вельмі жыва: на яго грабніцы ў падзямельлі Сьв. Пятра, дзе хаваюць Рымскіх Папаў, заўсёды пабожныя людзі ставяць сьвечкі і кладуць кветкі і заўсёды там убачыш немалую грамадку, што моляцца ня толькі за ўпакой душы Папы Яна, як прызываючы ягонага заступніцтва, бо агульна народ уважае яго за сьвятога.

І сёлета 21. VI. 1968 абыходзіцца мілы юбілей 5-ці год, як быў выбраны новы Папа — цяперашні — Павал VI-ты.

Прайшло 5 гадоў ягонай вялікай і адказнай працы: працяг і заканчэньне II-га Ватыканскага Сабору, а пасьля вельмі трудны абавязак — увесьці пастановы Сабору ў царкоўную практыку жыцьця.

Як мы бачылі, Сынод значна памог у тым, каб пазнаць, як уласна праходзіць рэформа ў цэлым сьвеце і што ў гэтым кірунку рабіць далей?

І аднаўленьне жыцьця пачалося ад самога Папы і ягонае Ватыканскае Курыі, далей праходзіць па ўсіх дыяцэзіях, парахвіях — аж да апошняга верніка! Зьмены ў Літургіі, у Кананічным Праве, у практыцы сьв. Сакрамантаў і інш.

Папа адбывае вялікія падарожжы, чаго ўжо здаўна ня бывала ў Ватыкане — ў Еразоліму, ў Бамбэй, ў Фатіму, ў Нью Ёрк і ў Канстантынопаль. І ў гэтым годзе зьбіраецца на Эўхарыстычны Кангрэс у гор. Баготу (Паўдз. Амэрыка, Калюмбія), 23. VIII.

*

Паміма авансаванага веку (71), пераэкытай цяжкой хваробы і апэрацыі, Павал VI працуе вельмі настойліва, а сну пасьвячае ледзь 5 гадзін! Рэгулярна адпраўляе царкоўныя службы і моліцца нямала прыватна, прыймае на аўдыенцыях масы народу, прамаўляючы, тасуючы слова да патрэбаў тых пілігрымаў і турыстаў. Прыватна прыймае асобныя групы пілігрымаў і паасобных выдатных людзей.

Каталікі маюць пільны абавязак маліцца за здароўе і памыснасьць у працы Хрыстовага Заступніка на зямлі, свайго Папы і Айца!

*Я. Савіцкі.*

# Прасьледаваньне рэлігіі ў СССР, асабліва ў Беларусі

Сьвяткуючы юбілей 50 год рэвалюцыі, Савецкі Саюз паўсюдна рэклямуе сваю поўную свабоду.

Наадварот эміграцыя дае доказы жорсткага прыгнёту і ўціску рэлігіі і Царквы ў СССР.

Дык вось Заходні сьвет ня ведае, каму верыць? І хто гаворыць праўду?

Аб свабодзе рэлігіі ў Савецкім Саюзе сьветчыць ня толькі афіцыяльная прапаганда ўраду і партыі, але нават і сама Праваслаўная Царква!

Мы ня можам ня прызнаваць павагі той Царквы і таму мы, здаецца, павінны былі-б верыць і тым весткам Царквы аб свабодзе, а тады таксама верыць і савецкай рэкляме. — Але . . .

Мы тут ня будзем паклікацца на статыстыкі, ані на сьветчаньні прыездных із Саветаў, ані на ўспаміны, якія зьяўляюцца ў друку на Захадзе. — Але мы толькі возьмем усім ведамыя факты з падзеяў 50 год рэвалюцыі, — факты зрэшты прызнаныя і ўрадам дый самой камуністычнай партыяй, — і няхай гэтыя факты будуць сьветкамі праўды аб свабодзе!

Каб паказаныя факты сталі больш нагляднымі-відавочнымі, мы прывядзём параўнаньне і доказы — паводле савецкай сыстэмы — у працэнтах.



*Базыліка Съв. Пятра і Паўла ў Рыме*

## I

## ПАГІБЕЛЬНЫ ПРЫГНЁТ РЭЛІГІІ І ЦАРКВЫ

**1) Найперш у адносінах да царкоўнае маемасьці.**

Камуна адразу захапіла ўсю царкоўную маемасьць: землі, будынкі, установы, бібліятэкі, архівы і інш., словам, абсалютна і бяз ніякае аплаты ў с ё !

Нават і тое, што было фундавана ці даравана Царкве або пабудавана загранічнымі фундатарамі ці прыватнымі асобамі.

Значыць, Цэрквы — Праваслаўная і Каталіцкая — панесьлі страты ў маемасьці на сто працэнтаў — 100%.

Да гэтага далічаецца страта канфіскаваных усіх манастыроў, царкоўных школаў, бібліятэкаў, шпіталяў, інтэрнатаў — таксама на ўсе 100%.

УВАГА: Да гэтае групы царкоўнае маемасьці была ў парктыцы ўлучана канфіската прыватнае маемасьці і ўласнасьці духавенства і манаства. Значыць, людзі, якія ўлажылі свой асабісты труд і здольнасьці, каб абясьпечыць сябе і свае сем'і ,страцілі таксама ўсё і былі выкінены даслоўна на вуліцу бяз сродкаў да жыцьця, што для старых і недалужных, а таксама для праваслаўнага жанатага духавенства, сталася найцяжэйшай формай прыгнёту і мерай прасьледу.

Прычынай такога жорсткага ўціску была прыналежнасьць да Царквы і рэлігіі і злоснасьць атэізму.

Праўда, шмат чаго, а часам і ўсё, з царкоўнай і прыватнай маемасьці не пайшло на карысьць савецкае дзяржавы, а было проста панішчана, разбазарана і разграблена у выніку рэвалюцыі і з ненавісьці да рэлігіі. Асабліва непапраўная страта была прычынена для культуры праз зьнішчэньне памятнікаў старадаўнасьці ў будаўніцтве, у бібліятэках, у архівах і наагул у царкоўнай маемасьці.

**2) У адносінах да самага духавенства і манаства, да іх асобаў:**

Ведама, што рэвалюцыя адразу кінулася на духавенства і манаства, — было шмат забойстваў, расстрэлаў, арыштаў, зьняволеньняў — найчасьцей бяз сьледзтва і судоў. Пазьней бы-

лі ўжо тасаваныя лягеры — да 10-ці і 25-ці гадоў і прымусовыя работы.

Ніякая статыстыка тут немагчыма! Аднак, калі цяпер функцыянуе ня больш як 10% сьвятыняў (цэркваў, касьцёлаў), а ў некаторых мейсцах толькі 5%, а нават у цэлых раёнах Царква і рэлігія даведзена да поўнае ліквідацыі, — дык выснаў ясны, што прасьлед вынішчыў духавенства і манаства да — 90% і да 95 і да 100%.

Калі ў Расеі было да 1000 манастыроў і ўсе яны (за выняткам пары рэпрэзэнтацыйных) скасаваныя, а манахі і манахіні зьліквідаваныя ці разагнаныя, дык пацярпеўшых трэба лічыць на ўсе — 100%.

### 3) Адносіны да цэркваў, сьвятыняў . . .

У адносінах да царкоўных будынкаў, а найперш да самых сьвятыняў — цэркваў і касьцёлаў. Тут трэба было-б улучыць і жыдоўскія сынагогі і магамэтанскія мэчэты, а нават і іншыя дамы малітвы: ўсе яны былі аб'яўлены ўласнасьцяй дзяржавы і адабраны ад вернікаў. Пакінены толькі ў малой частцы да ўжытку веручых (і то за арэнду, часта немагчыма цяжкую!) . . . Значыць, уціск рэлігіі даходзіць тут таксама аж да 100%.

Даўнэйшыя дамы малітвы абернены на клюбы, на кінатэатры, на музэі або на памешканьні з радыкальнай пераробкай, зьнішчаючы вартасьці архітэктуры і мастацтва, або пакінуты на павольны заняпад.

І тая малая частка, што асталася для культу і набажэнства, існуе пераважна бяз рэмонту, бо ўвесь матар'ял у руках камуны, а бязбожная дзяржава да рамонту не дапускае, дык паволі царкоўныя будынкі становяцца нездатнымі да ўжытку.

Праўда, ўрад у некаторых мейсцах праводзіць сам рамонт для паказу і прэзэнтацыі, як у Маскве Крамлёўская царква. І некаторыя сьвятыні ўважае ўрад за памятнікі культуры і іх дзяржава кансэрвуе. Але тады яны пераважна выймаюцца з царкоўнага ўжытку. Астаюцца для храмаў цэрквы і касьцёлы ў мястэчках і парахвіях, якія вернікам удалося абараніць для набажэнства і захаваць ад ушкоджаньня. Аднак такія выпадкі вельмі рэдкія.

УВАГА: Партыя і Савецкі ўрад рэклямуе доказы, што сам народ адракаецца ад цэркваў і адступае іх на іншы ўжытак. Толькі-ж ня выказваюць прычыны, мяноўна, што да таго часу ўрад абкладаў царкоўныя будынкі такімі непасільнымі падаткамі — аж пакуль народ не адказаўся іх плаціць!

Дык вось якім падступным спосабам савецкі ўрад стараецца выкараніць рэлігію! А хвальшывая рэкляма паказвае на народ, які быццам самахвотна адрокся ад рэлігіі і Царквы . . .

### 4) У адносінах да культуры і навукі

Ад пачатку рэвалюцыі Царква была адзеленая ад дзяржавы і школа — ад Царквы.

Аднак, калі такім спосабам у дэмакратычных дзяржавах, (як Злучаныя Штаты Амэрыкі), Царква дастала найбольшую свабоду і незалежнасьць і сама вядзе свае школы і арганізацыі, — дык у Савецкім Саюзе аддзяленьне было зроблена на тое, каб цалкам зьнішчыць Царкву, рэклямуючы ў Вольным Сьвеце, што дадзеная рэлігіі поўная свабода.

Вось адносна навукі: ад Царквы адняты ўсе школы з усім дабром, як бібліятэкі, архівы і ўсе ўстановы і кабінэты, а нават і прыватная маемасьць людзей там працуючых бібліятэкі, архівы і ўсе ўстановы і кабінэты.

Царква панесла страты ў школьнай справе на ўсе — 100%.

І Царкве забаронена карыстаць з усіх сродкаў навачаснае культуры і навукі, як радыё, тэлевізія, кіно, тэатр, спорт, клюбы, прэса і права друку: не хапае нават царкоўных кніжак, патрэбных да набажэнства духавенству і вернікам.

Значыць, тут прыгнёт Царквы даходзіць да поўных — 100%.

Прывоз і высылка з заграніцы Сьвятога Пісьма і малітаўнікаў ці служэбных царкоўных кніжак забароненыя і караюцца на ўсе — 100%.

Увоз з заграніцы царкоўнае літаратуры лічыцца злачынствам і караецца таксама на ўсе — 100%.

І наагул Савецкі Саюз стараецца даць ацэнку Царквы як інстытуцыі некультурнай, якая супраціўляецца навуцы і нават з навукаю змагаецца. Дзеля таго праводзяць ізаляцыю духавенства ад усіх навуковых установаў.

Забароненыя таксама ў Саюзе ўсялякія рэлігійныя арганізацыі і брацтвы, асабліва такія, у якіх дзеці і моладзь маглі-б прыймаць удзел: гэта ўсё таксама на ўсе — 100%.

Зборныя малітвы ў прыватных дамох ці з нагоды царкоўных або сямейных сьвяткоў, а такжа працэсіі, пасьвячаньні і інш. забаронены. І званіць у сьвятынях нельга, каб «не нарушаць агульнага супакою». Таксама стаўляньне крыжоў пры публічных дарогах і мейсцах сурова забараняецца.

Выпісываць рэлігійныя часапісы з заграніцы не дазваляецца.

### 5) Адносна царкоўнае герархіі

Праваслаўнае духавенства ў Сав. Саюзе падлягае япіскапам, якія залежаць ад Маскоўскага Патрыярха, а сам Патрыярх з сваім Сынодам дзеіць пад поўным кантролем Савецкага ўраду. Значыць, вонкава Праваслаўная Царква там уладжана. Аднак штат духавенства скарочаны бязьмерна. Духоўныя сэмінарыі і акадэміі маюць моцна агранічаны лік студэнтаў.

Дык вось у такім «унармаваным» стане жыцьцё Царквы зусім ненармальнае, агранічанае і прыгнечанае.

А Каталіцкая Царква знайходзіцца ў яшчэ горшым палажэньні і прыгнёце. У Летуве, напрыклад, было да вайны шэсьць біскупаў, а ў духоўных сэмінарыях было 466 студэнтаў. Цяпер дапушчаны да дзейнасьці адзін біскуп, а лік студэнтаў у сэмінарыі агранічаны да 20—30. Значыць, у Летуве прыгнёт рэлігіі выражаецца ў працэнтах каля — 85%.

А ў Беларусі Каталіцкая Царква цалкам пазбаўлена біскупаў і няма ніводнае духоўнае сэмінарыі. Значыць, адносна герархіі прыгнёт рэлігіі ў Беларусі выражаецца ў поўных — 100%.

Таму што Каталіцкая Царква ня можа нармальна існаваць бяз біскупаў, бо толькі біскуп можа пасьвячаць новых дыяканаў і сьвятароў, — дык гэтым чынам Катал. Царква ў Беларусі даводзіцца да поўнае ліквідацыі. — Дык якая можа быць мова аб свабодзе рэлігіі ў Беларусі? І нават сама савецкая ўлада ў Беларусі цынічна прызнаецца, што рэлігія і Царква вядзецца тут да поўнае загубы.

### 6) Парапаганда і рэкляма

Ісус Хрыстос загадаў апосталам: «Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх...» (Мат. 28, 19).

І ў Марка сказана (16, 15): «Ідзеце па ўсім сьвеце і абвяшчайце Эвангельле».

Але ў Савецкім Саюзе такая Хрыстовая місія station ўка забаронена і за «апостальства» пагражае самая суровая кара.

Нават абарона рэлігіі на публічных лекцыях, дыспутах і пры іншых нагодах не дапускаецца: калі-б хто выступіў у абароне, дык яму адразу прыпісалі-б агітацыю і пакаралі-бы за гэта. І няма таксама мовы аб абароне ў прэсе, ці ў друку, ці ў якіх іншых сродках прапаганды, хоць атэізм ужёвае ўсялякія спосабы нападаў на рэлігію. І хоць ворагі ў сваей агітацыі дапускаюць яўную няпраўду і фальш супраць рэлігіі.

Хоць афіцыяльна атэізм апіраецца на здабытках навукі, то ў практыцы яны далёка адыходзіць ад навуковых доказаў, а найбольш апіраецца на тэрор і насільле.

Значыць, прасьлед рэлігіі ў прапагндзе і рэкляме праводзіцца на ўсе сто працэнтаў — 100%.

Гэтым спосабам камуна імкнецца выхаваць новае пакаленьне ў грамадстве, якое зусім ня будзе знаць праўды аб рэлігіі і тады — яны спадзяюцца, што Цэрквы ліквідуюцца самі сабой.

### 7) У адносінах да дзяцей і моладзі

Савецкі ўрад і камуністычная партыя ўважаюць дзяцей і моладзь за сваю ўласнасьць. Ад вучэньня рэлігіі Царква адсунута на ўсе — 100%.

Але таксама і бацькі: ім забаронена вучыць дзяцей маліцца і навучаць іх рэлігіі. А тымчасам абавязковая школа прымусова вучыць атэізму і выхоўвае ў ім. Дзеці і моладзь уцягваюцца ў школьныя арганізацыі, дзе дамагаюцца ад моладзі вырачэньня рэлігіі.

У апошніх часох выйшла забарона хадзіць дзецям у царкву (касьцёл) і прыступаць да Сьвятых Тайнаў (Сакрамантаў) — да 18-ці гадоў веку. Ворагі лічаць на тое, што за гэты час цалкам адбяруць веру ў моладзі. Калі-б аднак хто з іх веру захаваў, дык партыя і ўрадовыя органы не дапусьцяць такога ні да вышэйшых школаў, ні да ўрадовай працы. А праца ў Саветах наагул уся ёсьць урадовая! Значыць, веручаму чалавеку ў Саюзе няма магчымасьці ні працаваць, ні жыць...

Хрыстос казаў: «Дапусьціце дзяцей прыйсьці да Мяне!» А ў Сав. Саюзе адрываюць дзяцей ад Хрыста: нават нярэдка рабілі сьвятароў адказнымі за тое, калі дзіця пранікала да касьцёла (царквы)! Зачынялі тады сьвятыні на некалька месяцаў або і зусім.

Сьвятаром забараняецца адведваць парахвіян і езьдзіць на сьвяткі да суседніх парахвіяў і там спавядаць або служыць. Забаронена людзям зьбірацца ў той дом, дзе сьвятар прыяжджае да хворага.

Адным словам не дапускаецца, каб ад духоўнае асобы не даходзіла Божае слова да людзей, асабліва да моладзі.

Гэта ўсё пярэчыць прыроднаму праву сьвятара і бацькоў выхowваць дзіця ў хрысьці-

янскай веры і абычаях. А прымушаюць аддаваць дзяцей і моладзь на выхаваньне атэістычнае і бязбожнае.

УВАГА: Савецкая школа, яе праграма і эгзамены даводзяць да таго, што — або дзіця і моладзь, канчаючы школу і здаючы эгзамен, прыйме погляд атэістычны, які школа называе «навуковым», — або такі вучань не здасьць эгзамену! Бо веруючы вучань будзе прызнаны ігнарантам і ня зможа атрымаць ніякага атэстату: такім спосабам атэстат вяжацца з недаверствам і атэізмам. Эгзамен з прыродазнаўства, з фізыкі, з хіміі і з гісторыі ёсьць пробай веры, а ў савецкай школе становіцца здрадай веры . . .

*

Вось мы выказалі сем спосабаў прыгнёту рэлігіі і Царквы ў Савецкім Саюзе. З гэтага бачым, што прасьлед ня толькі вядзецца ад пачатку рэвалюцыі, але трывае і далей, а нават паглыбляецца, як відаць з нашага 7-га пункту.

І мы не згаджаемся з тымі, што кажуць аб агранічэньні рэлігіі ў Савецкім Саюзе, бо праводзіцца ня толькі агранічэньне, але сапраўдны уціск, прыгнёт і прасьлед; партыя і ўрад імкнецца да поўнае ліквідацыі Царквы і рэлігіі. Няма ніякае палёгкі, ні надзеі на лепшае!

Надарэмна нас цешаць, што пасьля Хрушчова рэжым зьмягчаецца. Можна прызнаць нейкае аслабленьне ў нацыску на калгасы і невялікую паправу ў дастаўцы прадуктаў, а нават ў цэнах. — Але на полі рэлігійным націск не зьмяншаецца, а наадварот партыя вядзе да згубы рэлігіі і Царквы Праваслаўнае, Каталіцкае і іншых.

*

Калі параўнаем прыгнёт рэлігіі ў Саветах да гісторыі даўнейшае, дык савецкі рэжым найбольш падобны да валадарства Рымскага імпэратара Дыяклецыяна (303—313). — Гэты найперш загадаў разбурыць хрысьціянскія сьвятыні, нішчыць і паліць царкоўныя кнігі і прасьледаваць духавенства. А пасьля ўжо дайшло да мучаньня і забойства сьвятароў і народу за веру.

Ці Савецкі Саюз не навучыўся чаго ад гэтага тырана?

Другім прыкладам для Сав. Саюзу можа быць імпэратар Юліян Адступнік (Апастат), які нарадз. ў 331 і згінуў у 363 г.

Гэты быў ахрышчаны і выхаваны ў хрысьціянстве, але адрокся ад веры і ў 361, калі стаў імпэратарам, пачаў жорсткі прасьлед.

Юліян стараўся адрадзіць паганства культурна, а хрысьціян пакінуць у невуцтве: адабраў ад духавенства школы і «аддзяліў Царкву ад дзяржавы, а школу ад Царквы». Разбураў і нішчыў хрысьціянскія сьвятыні і паніжаў дый прасьледаваў духавенства.

На шчасьце скора згінуў (у 363) падчас вайны з пэрсамі, а хрысьціянства ізноў адрадзілася.

Пішуць аб ім, што ранены атручанай стралой падняў скрываўленую руку ў неба і крыкнуў: «Галілейчык, ты перамог!» (так ён прazываў Ісуса Хрыста).

Ці не чакае ганебная пагібель і цяперашніх прыгнятальнікаў рэлігіі і Царквы? Бо той-ж Хрыстос — укрыжаваны і маўклівы — ёсьць Усемагутным Богам!

## II

## «СВАБОДА» РЭЛІГІІ Ў СССР

Мы бачылі, які зацяты прыгнёт рэлігіі вядзецца ў Савецкім Саюзе; а нават (зусім правідлова скажам), што вядзецца ліквідацыя-зьнішчэньне рэлігіі — веры ў Бога.

Аднак і асобныя камуністы і Савецкі ўрад крычаць па ўсім сьвеце, што ў Саветах існуе «свабода веры і Царквы». А нават (на вялікае дзіва!) і прадстаўнікі Царквы, калі прыяжджаюць на Захад, публічна сьветчаць аб гэтай «свабодзе» . . .

Аднак ёсьць дастатковыя паказьнікі, якія нам выясьняюць праўду і няпраўду ў савецкіх дэклярацыях.

*

Калі савецкія крыніцы гавораць аб свабодзе рэлігіі, дык самі прызнаюцца, кажучы: «У нас дазваляецца рэлігійны культ», значыць, дазваляецца набажэнства і толькі таго . . .

Дык вось і трэба ведаць што іншай свабоды для рэлігіі ў Саветах няма, як толькі гэтая «свабода культу», а усё іншае забаронена — і апостальская місія, і ўсе культурныя сродкі і нават абарона веры! Забаронены таксама і ўсялякія вонкавыя знакі — выяўленьне царкоўнага жыцьця. А найважнейшае, што срога забаронена рэлігійнае выхаваньне моладзі.

Затое ўсялякімі спосабамі дзейнасьць ураду і партыі настаўлена на тое, каб дзеці і моладзь атрымалі выхаваньне анты-рэлігійнае і цалкам атэістычнае. За гэта перад усім адказвае школа: калі хоць адзін хто з вучняў перахавае веру, дык школа нясе за гэта вялікую адказнасьць. Тады-ж настаўнікі

разьдзеляюць між сабою ролі проста «шатанскай місіі», каб сьлядзіць такога ўпорыстага і абавязкава адабраць у яго веру да выпуску са школы!

1) На чым палягае тая «свабода культу?»

Праўда, што і гэтая куцая свабода — справа для хрысьціян вартасная.

Аднак, агранічваючы свабоду кожнага сьвятара, агранічваючы ўжываньне будынкаў-храмаў а таксама робячы розныя труднасьці вернікам, тут тасуецца і націск, і подступ, і нятрыманьне ўмоваў і розныя зьдзекі. — Як мы ўжо паказалі ў папярэднім артыкуле, рэлігійнае жыцьцё знайшлося пад бязупыннай пагрозай, так што становіцца проста мучэньнем чалавека і сям'і!

Дзеля гэтага ў Саветах рэлігія замыкаецца ў душах: людзі ратуюцца поўным маўчаньнем; але маўчаць трэба там умеючы. І маліцца магчыма тэлькі скрыта, ня выказваючыся вонках. — Так уласна і робіцца: абразы паздыймалі ў хатах, бо і гэта магло-б лічыцца публічнай маніфэстацыяй.

Веручыя ходзяць на атэістычныя лекцыі, але і там маўчаць абсалютна, хоць нярэдка іх выклікаюць на дыспуты. А ў прыватных гутарках веручыя ніколі не падыймаюць рэлігійных тэмаў: калі-ж падыймае атэіст, веручыя адказваюць маўчаньнем. Бо няхай веручы чалавек дасьць моцны аргумант — доказ у абарону веры, дык яму зара гэта за лічыцца ў агітацыю, якая выклікае немалую кару.

Так веручы народ насьледуе першых хрысьціянаў, якія пільна сьцераглі хрысьціянскія таямніцы перад паганамі.

Значыць, на чым палягае ў Саветах «свабода культу»? — Практычна палягае на тым, што могуць адпраўляць набажэнства —

СТАРЫЯ СЬВЯТАРЫ

для СТАРЫХ ЛЮДЗЕЙ

у СТАРЫХ ЦЭРКВАХ (КАСЬЦЁЛАХ)...

*

2) Чаго спадзяюцца атэісты?

Такое сумнае палажэньне веручых людзей апісаў савецкі прафэсар-пэдагог Макарэнка ў сваей «Пэдагагічнай Паэме»: там уласна чытаем,, як старэнькія праваслаўныя сьвятары з такімі-ж старымі парахвіянамі прамыкаюцца да старых запушчаных цэркваў і вечарамі паўсакрэтна моляцца-сьпяваюць, запаліўшы цянюсенькія сьвечкі.

Ведама, Макарэнка, як вучоны чалавек-атэіст, насьміхаецца над такой наіўнай верай адсталых ад грамадзтва людзей, над іх прастатой і някультурнасьцяй. Ён аднак, як чалавек высокай культуры, забараняе сваім выхаванкам мяшаць гэтым людзям у іхным маленьні, толькі-ж ацэньвае яго як апошні праяў даўнейшае рэлігіі, якая ўжо скора памрэ натуральнай сьмерцю.

І ўласна ўся анты-рэлігійная палітыка імкнецца да таго, каб рэлігія загінула сама сабой. Але і тут яшчэ атэізм ня можа такой павольнай сьмерці рэлігіі дачакацца, дык усьцяж уводзіць акты тайнага тэрору, падступнага націску і закрытага прасьледу.

3) Астаецца пытаньне: — Якая прычына прымушае веручых людзей, асабліва духоўных, сьветчаць аб свабодзе рэлігіі ў Савецкім Саюзе? І ці ня робяць яны гэтага толькі дзеля страху асабістага, ці страху за Царкву або за веру?

На гэта можам адказаць, што ў іх сьветчаньні здараецца ўсё пакрысе: і асабістая баязьнь — найбольш праваслаўнага жанатага духавенства, якое праймаецца трывогай за сям'ю, што магла-б змарнавацца, каб бацька — сьвятар страціў свабоду.

Таксама дзеіць і страх за Царкву, якая магла-б страціць і рэштку «свабоды культу», дапушчанай ў Саветах.

А найбольшы страх за веру ў народзе, які аставаўся-б без пастыраў і паволі станавіўся-б ахвярай ненасытнага атэізму.

Дык вось усё гэта прымушае вернікаў і духавенства, выпушчанае заграніцу, гаманіць аб «свабодзе» ў Савецкім Саюзе. Ды ім нярэдка бальшавікі падказваюць, што і як маюць казаць аб камуне ў Расеі. А, калі хто папрабуе казаць праўду, дык савецкая камуна ўмее мсьціцца і дасягнуць праціўнікаў і непаслушных нават заграніцай.

Аднак мы мусім падкрэсьліць, што п р а ў - д а цэніцца даражэй, чым усялякія вартасьці гэтага сьвету і павінна быць чыстая ад усялякай няпраўды! — Першыя хрысьціяне лічыліся здраднікамі, калі сымулявалі і прыносілі ахвяры ідалам, не адракаючыся веры. — Значыць, тыя, што гавораць няпраўду аб свабодзе рэлігіі ў Савецкім Саюзе, кажуць . . . няпраўду . . . А казаць няпраўду ў абароне веры — гэта ёсьць акт немаральны і грэшны!

Прашу аднак зьвярнуць увагу на тое, што і як гавораць веручыя і духоўныя айцы заграніцай аб палажэньні рэлігіі і Царквы ў Савецкім Саюзе?

Найчасьцей або зусім маўчаць, або пераводзяць гутарку на іншыя тэмы, або адказваюць такімі фразамі, якія можна разумець і

так і сяк. Напрыклад, кажуць: «Ну, у нас цяпер можна хадзіць у царкву!» Або і так: «У нас сьвятары служаць свабодна: ім ніхто не мяшае ! ..»

4) Праўда ці няпраўда?

— Калі мы разважым і рассудзім, дык ня можам рабіць веручым закіду, што гавораць няпраўду: яны не кажуць нічога фальшывага, але і ня кажуць усей праўды. Яны асьцярожна абыходзяць праўду.

Ці гэта грэшна?? — Не! — У важных абставінах можна паўстрымацца ад праўды, абы толькі не казаць нічога фальшывага.

Нават сам Хрыстос у падобны спосаб, выступаючы супраць фарызэяў, ужываў мовы абходнай — гаварыў у прыповесьцях. Хоць яны і дагадваліся, што гутарка датычыць іх, але не маглі злавіць зачэпнага пункту. Тады аж скрыгаталі зубамі са злосьці, што ня могуць падлавіць прычыны, каб давесьці Хрыста да згубы!

Калі аднак прыйшоў час, які з волі Божай аб'явілі пракрокі, Хрыстос пачаў гаварыць адкрыта ўсю праўду і асуджаць фарызэяў за фальш: а на судзе ў Каяфы яўна прызнаўся, што ёсьць Божым Сынам, за што і быў засуджаны на страшную сьмерць.

*

5) Уканцы неабходна падкрэсьліць, што Савецкі Саюз — (увесь урадовы апарат і партыя), прасьледуючы рэлігію, стараюцца затаіць сваю варожасьць і падступна рэклямуюць поўную свабоду.

Ёсьць аднак аматары падступнай агітацыі — (на стыд і жаль, нават між духавенствам): гэта людзі падкупленыя камунаю, і ўласна іх Сав. Саюз спэцыяльна высылае заграніцу на рэкляму сваей фальшывай свабоды. Яны выступаюць на захадзе з публічнымі лекцыямі і дэклярацыямі, у радыё або ў тэлебачаньні, а таксама ў газэтных артыкулах і іншымі спосабамі.

Аб гэтым трэба ясна сказаць і такіх заклеймаваць як фальшывых сьветкаў, якія гавораць яўную няпраўду, што ў Савецкім Саюзе няма ані ўціску рэлігіі і Царквы, ані прасьледу і што там пануе поўная свабода!

Гэта ёсьць людзі нанятыя і аплачаныя. Яны дастаюць ад ворагаў рэлігіі «іудавыя 30 срэбнікаў», найчасьцей у постаці якой даходнай — «цёплай» службы, царкоўнай ці сьвецкай. Яны маюць казённыя камандзіроўкі, курортныя білеты, аплачаныя падарожы і інш. выгоды. — Некаторыя з іх прайшлі праз спэцыяльныя школы а пасьля былі накіраваны ў духоўныя сэмінарыі і самі сталі (у бязбожнай палітыцы) духоўнымі асобамі; але трэба моцна сумнявацца, ці пры гэтым захавалі веру ў Бога . . .

Гэткія тыпы пойдуць на ўсё, што ім накажа атэістычная партыя: яны горшыя ад няшчаснага Іуды Іскарыёта, які быў спачатку добрым апосталам, а толькі пасьля выкрывіў сваё сумленьне — прадаў Хрыста і сам ганебна згінуў.

*

Маем аднак у Богу надзею, што рэлігія перажыве і люты прасьлед і подлы подступ камуна-атэізму, так як пражыла прасьлед Дыяклецыяна і Юліяна Адступніка, нікчэмнасьць Гітлера, тэрор Сталіна, хуліганства Хрушчова . . . Нават ужо і самі атэісты сумняваюцца ў сваім шатанскім дзеяньні. Ужо перамяняюць яўную варожасьць на мягкую агітацыю і скасавалі саюз бязбожнікаў, каб лепш спакушаць і прываблівалць мала крытычных людзей, асаблёва моладзь. Ворагі ўбачылі, што тэрор выклікае супраціў, прынамсі ўнутраны і ўкрыты.

А савецкая дзяржава, маючы нязьмерныя сродкі, не шкадуе іх на агітацыю, на прапаганду і на рэкляму: кідае на гэта найбольшыя сумы грошаў — і ў сябе і заграніцей ,каб дабіцца мэты — згубы рэлігіі і Цэркваў.

Ім аднак-жа адкажам словамі апостала Пятра, якія сказаў да Сымона мага (чарадзея) ў Самарыі, калі Сымон «зьдзіўляў самарыйскі народ, удаючы некага вялікага». Апостал Пётр сказаў яму з страшэннаю пагрозаю: «Няхай тваё серабро будзе з табою на загубу, бо бачу цябе ў гарчыні жоўці, ці ў путах няпраўды». (Дзеяньні Апосталаў 8, 10—20).

О, бязбожны Савецкі Саюз! Што з табою будзе ў новым 50-годзьдзі?

*а. Ф. Журня*

# „ПАЛЯВАНЬНЕ“ НА ЧУЖОЕ СЭРЦА

Яшчэ нядаўна абегла ўвесь сьвет хвалюючая вестка аб тым, што праф. Хрысьціян Бэрнард у Паўдзённай Афрыцы зрабіў 1-ую апэрацыю — «трансплятанцыю» сэрца аднаго чалавека другому. Да гэтай пары ўжо зроблена не адна такая апэрацыя, але толькі некалькі з іх было тымчасова ўдачных і пацыенты яшчэ жывуць. Найдаўжэй з іх працягнуў Філіп Бляйбэрг, але і таму ўжо мяркуюць ізноў зрабіць апэрацыю на новае сэрца!

Бяз ніякага сумніву такая апэрацыя ёсьць вялізарным дасягненьнем мэдыцыны і людзкога генія.

Здавалася-б, што цяпер нічога больш не астаецца чакаць, як толькі дасканаліць тэхніку такой апэрацыі ,каб ратаваць людзей і працягваць людзкое жыцьцё. Аднак-жа з розных бакоў пачуліся засьцярогі маральнага характару адносна чужога сэрца. Пастараемся разгледзіць іх больш дакладна.

1) Найперш паўстае пытаньне аб мамэнце сьмерці чалавека ,ад якога бяруць сэрца. Ясная справа, што можна ўзяць сэрца ад чалавека напэўна мёртвага, каб уставіць яго жывому. Але хірург мусіць старацца ўзяць сэрца як найхутчэй пасьля сьмерці, пакуль яно яшчэ сьвежае і не пацярпела яшчэ ніякіх зьмяненьняў. Дзеля таго «палююць» на сэрца чалавека, што згінуў у раптаўным трагічным выпадку, найлепш чалавека здаровага, маладога і моцнага. А такіх выпадкаў здараецца цяпер нямала ў дарожных катастрофах.

Але вось узьнікае цяжкасьць дакладнага вызначэньня мамэнту сьмерці. Калі-ж існуе яшчэ сумненьне між жыцьцём і сьмерцяй, дык нельга нарушаць сэрца, бо было-б даканана злачынства-забойства! Праф. Бэрнард кажа, што, калі спыняецца дзейнасьць мазгоў, тады сьмерць ужо пэўная.

Аднак некаторыя дактары з гэтым не згаджаюцца — кажуць, што ў пачаткавых праяўленьнях зьмены ў мазгах, пасьля клінічнай сьмерці, хаця і сэрца было спынена і дыханьне затрымалася, усё-ж здараліся выпадкі, што жыцьцё далося вярнуць! — Дзеля гэтага Каталіцкая Царква, дапускаючы такую магчымасьць, пазваляе яшчэ ў працягу двух гадзін пасьля клінічнай сьмерці ўдзяляць сьв. Сакраманты (Тайны) памёршаму чалавеку.

І ня дзіўна, што нямала людзей аднеслася да справы трансплянтацыі сэрца насьцярожана (з недаверам). Паводле апошняй анкеты, праведзенай Інстытутам Гальлюпа ў Амэрыцы, 30% людзей выказаліся супраць такой апэрацыі і то зь меркаваньняў этычных.

2) Другое пытаньне датычыць пацыента, якому даюць чужое сэрца. Дзеля таго, што такая апэрацыя ёсьць нязвычайна цяжкая і небясьпечная, дык яе трэба дапускаць толькі ў самай неабходнай аказіі, калі ўжо няма іншага спосабу ратаваць хворага! І трэба зважаць на тое, што людзкі арганізм з натуры ня хоча прыймаць чужога цела — адкідае яго далоў, або ў змаганьні сам гіне. Тут мэдыцына яшчэ дасюль ня можа знайсьці пэўнага спосабу прыстасаваньня. І праф. Бэрнард і іншыя лекары, што рабілі такую апэрацыю, ставілі сваіх пацыентаў у вялізныя труднасьці — рызыкавалі іхнім жыцьцём — амаль тры чвэрці такіх апэраваных паміраe!

І нават, калі-б усе труднасьці было магчыма паканаць, дык узьнікае пытаньне грамадзкага характару, каб ня вытварылася нездаровая атмасфэра і небасьпека супраць Божага загаду — «Не забівай!»

Бо, калі-б трансплятацыя сэрца сталася справай пэўнай і адносна лёгкай, дык хто-ж не захацеў-бы прамяняць сваё горшае сэрца на лепшае? Хто-ж не хацеў-бы пажыць маладзей і весялей і найдаўжэй? Хутка пашлі-б у работу грошы і пошукі дый «паляваньне» на сэрцы. Ці ня было-б магчыма з любві да каго, каб ратаваць у няшчасьці, «ахвяраваць» сваё сэрца або «купіць» ці выманіць чужое?

Сам праф. Бэрнард сказаў рэпартэрам: «Мы рашылі рабіць апэрацыю прышчапленьня сэрца, але чакалі на добрую нагоду». — Дык можна ўявіць сабе, якая можа стварыцца атмасфэра, калі дактары будуць шукаць «добрай нагоды»?

Вось, напрыклад, чакаюць на такую «нагоду» — сям'я і блізкія — людзі багатыя: яны гатовы даць вялікія грошы, каб лекар знайшоў кагосьці з добрым сэрцам для замены.

„New York Times“ піша: «Грошы могуць змусіць дактароў, каб рэгістравалі магчымых дастаўцаў патрэбных органаў яшчэ перад іх сьмерцяй. Грошы могуць змусіць людзей да гандлю сваімі органамі. І вялікае асягненне праф. Бэрнарда можа ператварыцца ў

грамадзкую трагэдыю і стварыць галіну макабрычнага гандлю».

Нядаўна здарыўся такі выпадак у Амэрыцы: у шпіталь гор. Станфорд прывезьлі 26-ці год шофера з прастрэленай галавою: яго стан быў вельмі цяжкі. Неўзабаве ў Нью Ёрку ў шпіталі знайшліся два пацыенты, якія ўжо чакалі на сэрца гэтага хворага. Дактары паслалі просьбу ў Станфорд прысласць хворага шофера яшчэ жывым. Зразумела, што бацькі хворага на гэта не згадзіліся.

Калі граф Бэрнард быў на аўдыенцыі ў Папы Паўла VI, дык Папа, віншуючы яму, жадаў ,каб ягонае асягненьне сталася дабрадзействам для чалавецтва.

Пэўна, мы ўсе гэтага жадаем. Але гэта можа стацца тады, калі чалавек дарасьце да маральнага ўзроўня паводле здаровага розуму і Божае волі. Калі чалавек навучыцца любіць Бога больш за ўсё, а бліжняга як самога сябе, тады і трансплятацыя сэрца і ўся сучасная тэхніка, якая валодае страшнай атамнай энэргіяй, ня будуць непакоіць людзей, але ім служыць.

а. Ф. Журня

# Артыкул аб беларускім сьвятым па ангельску

Нядаўна у ангельскім часапісе Eastern Churches Review (Vol. 1, No. 4, winter 1967—68), зьявіўся артыкул а. Аляксандра Надсона пад назовам «Spiritual Writings of St. Cyril of Turaŭ».

Ангельскі часапіс, як паказвае ягоны сам назоў, пасьвячаецца справам усходніх цэркваў. Гуртуе ён пры сабе ведамых вучоных і знаўцаў царкоўнага жыцьця і ўтрыманы на высокім узроўні.

Вельмі добра сталася, што такі артыкул паявіўся там і даў нагоду чытачом іншых нацыяў зацікавіцца і пазнаць скарбы духовай культуры беларускага народу. Пры гэтым трэба адзначыць, што сам артыкул а. Надсона сваім зьмястоўным уняцьцем і прыгожай формай добра адказвае ўзроўню часапісу.

Найперш аўтар паінфармаваў чытачоў аб жыцьці сьвятога Кірыла Тураўскага і коратка пастараўся схарактарызаваць час, у якім ён жыў. Пасьля гэтага ён зрабіў падрабязны разгляд духовых твораў сьвятога, асабліва ягоных прыповесьцяў аб нядбалым валадару і аб стане законным паводле Новага і Старога Запавету, у якіх сьв. Кірыл гаворыць аб ідэале манастырскага жыцьця. Параўноўваючы думкі беларускага сьвятога з думкамі іншых вялікіх усходніх асцэтычных настаўнікаў, як сьв. Васіль Вялікі і Ян Лесьцвеннік, аўтар стараўся вызначыць месца сьв. Кірыла ў усходнехрысьціянскім духовым пісьменстве.

У апошняй частцы свайго артыкулу аўтар разгледзеў іншы род творчасьці сьв. Кірыла — ягоныя малітвы. Сапраўды гэта вобразны выраз цудоўнай душы сьвятога, поўны глыбіні думкі і хвалюючай лірыкі; гэта — цудоўная мэлёдыя пачуцьцяў людзкога сэрца. Пачынаючы ад жудаснай трывогі грэшніка, думкі пераходзяць у сардэчны жаль пакутніка і наканец даходзяць да найвышэйшай радасьці ў прымірэньні з Богам і выражэньні поўнай любові да Яго!

Было-б вельмі пажаданым, каб гэты артыкул не астаўся адзінай працай ў гэтай галіне, але паслужыў добрым пачаткам для далейшага апрацаваньня духовых скарбаў беларускай спадчыны.

а. Ф. Журня

*К. Чабатар*

# Мы — эмігранты, Аўстралія

(Заканьчэньне)

Пераехаўшы сюды, прыступіў да справы: купіў добры кусок зямлі-бушу на выплату, — месца, на якое яшчэ ня ступала людзкая нага і адразу ўзяўся карчаваць. А дрэвы тут шмат цьвярдзейшыя ад нашага беларускага дуба. Так, працаваць было над чым — аж вочы лезьлі на лоб! У вольныя дні — суботу і нядзелю, ад цямна да цямна. Адпачываць будзем пазьней! — І вось надарваў сабе жывот — ані дыхнуць, ані павярнуцца!

А і да доктара нельгаісьці, бо захварэў на сваей рабоце, значыць, трэба самому плаціць, а ў кяшэні ні капейкі! І страчаны час ніхто не аплаціць, дык як жыць?

Тут такі закон: калі захварэў пры рабоце, дык гаспадар аплаціць і доктара і за час хваробы. — Дык вось я неяк зьлез з ложка і папоўз на работу. Прыцягнуўся на месца працы, лёг на панадворку і пачаў стагнаць. Зара ўбачыў бос (гаспадар) і пытае, што мне? Я-ж паказваю на жывот. Ну, мяне-на машыну і паперлі ў шпіталь? За паўгадзіны ўжо далі мне на сон і рэзалі жывот, сьляпую кішку.

Як прачнуўся, дык пачуў у жываце такі боль — так пякло, як-бы налілі туды гарачага волава: нельга ані паварушыцца, як-бы хто шылам калоў у балючае месца!

А прытым не магу разгаварыцца: санітарка не разумее мяне, а я яе. Толькі дзіўлюся вытарашчыўшы вочы, як гусь на маланку; а яна круціць галавой, штосьці сабе тамонячы пад нос.

*

Раз у нядзелю, калі сонца пачало жарыць з самага раньня, кажа да мяне жонка: «Досыць ужо пражыцца, як бульба ў прыску! Усю работу ня пераробіш. — Лепш сходзім до сп. Юрдыцкіх!

А гэта палякі, з якімі я неяк пасябраваў: ехалі мы з імі разам у Аўстралію і тут лёс зноў нас зблізіў.

Добра! Бо і сапраўды ўжо надаела кожную суботу-нядзелю капацца ў зямлі, як сьляпыя краты! Ды і так ня будзеш багаты, але гарбаты...

Прыадзеліся, пайшлі. А ў нас да места (бо яны жылі ў месьце), было 3 мілі (каля 5-ці кілямэтраў). А прайсьці гэта ў такую сьпякоту, то дасца добра ў знакі!

Сонца стырчэла амаль над галавою: цень чалавека выглядаў як гарбуз у які уткнулі дзве запалкі — (гэта, мабыць, ногі!). У паветры абсалютная цішыня — аж нам здавалася, што ідзём у даўжэзнай печы, з якой толькі-толькі вынялі хлеб. Двух гадовага сынка несьлі на руках па чарзе. Адразу мы ўсе пачалі аплываць кісла-салёным потам.

Бачым, птушка сядзіць на тэлефонным слупе і сьмяецца. А рагоча яна так голасна, што чутно за паўмілі, зусім людзкім манерам — на ўсе лады. Яшчэ будучы вучнем, я чытаў у кнізе «Дзеці капітана Гранта» аб гэтай птушцы «рагатуне», якая сьмяецца перад усходам сонца. У тым часе я і не падумаў, што сам убачу і пачую такую дзівосную птушачку! Толькі-ж рагоча яна праз цэлы дзень і называюць яе тут «кукабара». Кароткая таўстая белая дзюба прымацавана да вялікай галавы, што сядзіць бяз шыі ў тулаве. Вочы, як дзьве вішні, чырвона-іскрыстыя. Пер'е ў яе сівое і брудна-белае, а мейсцамі такое сіняе, што аж пераліваецца ў вачах! Кароткія ногі і шырокі хвост.

Як толькі пераляціць на новае месце, дык задзірае хвост — аж кладзе яго на сьпіну і пачынае рагатаць. А як зьлятуцца дзьве, дык сядуць адна супраць другой, падыймуць галовы проста ў неба і заводзяць свой канцэрт.

Чалавека не баяцца зусім: можна падыйсьці блізка, а яна назірае сваім яркім вокам, скрывіўшы галаву. Пажырае ўсё ядомае: жабаў, яшчарак, мышэй, вужоў. Доўгімі гадзінамі сядзіць на суку, на слупе, вартуе і сачыць то адным, то другім вокам, пакручваючы галаву. А як заглядзіць нешта вартае фатыгі, дык спадае як камень уніз, хапае няўважнае жывое, узьлетае на сваё месца і праводзіць апэрацыю: дабівае сваю ахвяру, трапляючы ейнай галавою аб сук ці аб слуп, пакуль гэтае варушыцца і тады глытае цалком, дый зараз пачынае рагатаць, відаць, цешыцца, што злавіла няўважнага паўзуна!

Дзеля таго, што гэтыя птушкі вынішчаюць масу шкоднікаў, яны цешацца ў Аўстраліі вялікім паважаньнем: іх памяшчаюць на паштовых марках і накладаюць немалыя кары, калі хто-бы забіў рагатуна.

*

Ну, нейк мы дапаўзьлі да Юрдыцкіх — аж язык стаў калом — так высахла ў горле! Жонка, пераваліўшыся праз парог, адразу плюхнула ў крэсла. —

— Ох, ах! піць-піць... —

— Можэ млека хлоднэго?

— Ой, не! сёньня-ж пост...

— То можа кавы? — Дый не!...

— То можа гарбаты? —

— Не! Вось каб чаю, то й выпіла-б . . .

*

Працуючы ў бойні, адзін раз мы рэзалі больш як сто індыкоў, (іх чамусьці называюць «туркі»?). А я прыймаў аскубаных і патрашыў. Якраз у 4-х індычак мы знайшлі яйкі, ужо цьвёрдыя: я-ж забраў іх дамоў. Думаю сабе: «А ну-ж вылупяцца?» Балазе і квактуха хадзіла па надворку і бедавала: «Клопат-клопат!»

Ну, дык кажу ёй: «Калі табе клопат, хай-жа будзе яшчэ больш!» Падсыпалі ёй у скрынку ад яблыкаў і схавалі пад ложак, бо тады яшчэ жылі мы ў хлявушку. Часта чулася ўначы, як яна там варочала яйкі на ўсе бакі, каб нармальна адаграваліся. — Ну, і на бяду выйшлі 4-ры жывенькія сіва-рабыя камячкі. Жонка даглядала іх як малых дзетак. Але, як падрасьлі, дык аказаліся ўсе 4-ы «дзяўчынкі». Трэба было шукаць «маладога». Але я ўжо не працаваў у бойні, дык іду да знаёмага і прашу яго: ««Прынясі мне індыка-самца!» Але я сказаў па ангельску так, што ён прынёс мне смажанага індыка закручанага ў паперыну! («Rooster» — пятух, а «Roast» — смажыць). Што-ж зрабіць? мусеў прыняць смажанага і зьесьці.

*

Аднойчы ў суботу зьбіраюся ў горад, а жонка кажа: «Гаманіла мне Параска, што ў крамах ёсьць вельмі добрая каўбаса-крывянка з грэчнявай крупой. —

Загадала мне купіць. Расказала, дзе купіць і ўсё іншае. І ўсю дарогу — 3 мілі — я паўтараў, каб не забыцца! Але, чаго найбольш баішся, тое якраз здарыцца . . .

У горадзе спаткаў прыяцеля, які пасьля стаў непрыяцелем. Слова за слова і зайшлі на шклянку піва, дый пра каўбасу зусім забыўся: успомніў толькі пасьля сёмай шклянкі.

«А, братачка ты мой! як-жа дамоў вярнуцца?»

— А што? а чаму?

— Бо наказала мне жонка купіць каўбасы, а я і забыўся, як гэта называецца?

Ну, але нічога! Увайшоў я ў мясную і пачаў дапытвацца на ўсялякіх мовах. Ніяк мяне не хацелі зразумець, хоць і знакамі паказваў — аж мясьнік праз тэлефон выклікаў паліцыю і мяне пацягнулі . . . Аказалася, што я пры жанчынах сказаў нейкае брыдкое слова, перакруціўшы літары. Мяне, праўда, пусьцілі, узяўшы адрас. —

Толькі адчыніў дзьверы, жонка й пытае: — Дзе каўбаса? —

— Там, дзе і была!

— Чаму ня прынёс?

— Прывязуць . . .

За пару дзён прынесьлі павестку — заплаціць 10 даляраў за брыдкія словы ў публічным месцы.

*

Заняўся пчалярствам: спатрэбілася мне серка. Ведае кожны пчалавод, каб ня ела матыліца вашчыны, яе трэба абкурываць жоўтай серкай, спальваючы яе на гарачых вугольлях. Як серка называецца па ангельску, то ліха яе ведае. Але думаю, што і ў аптэцы дурні не сядзяць: неяк скажу, а рэшту дагадаюцца. Аднак колькі ім ня тлумачыў, нічога ня вышла. І то добра, што хоць не сказаў зноў якога благога слова.

Уканцы мушу даць маленькую агаворку: Аўстралію нельга раўнаваць, напрыклад, з Нямеччынай. Немцы вельмі кемны народ: ім толькі крыху намякнуць, зараз і дагадаюцца. Я сам аб гэтым пераканаўся: усюды мог паразумецца, хоць і ня ведаў нямецкае мовы. Тут-жа, пакуль ня скажаш дакладна, і мала таго, пакуль ня перакажаш па літарах (спэльлінг), дык аніяк не дагаворышся! Ня толькі ў крамах, а нават у банку. А майго прозьвішча ніколі правідлова не напішуць, хоць яно цалкам лёгкае — і вось яно!

«Чабатар»

# З Царкоўнага жыцьця

ВАТЫКАН: Тыднёвік „Osservatore Romano“ пачаў выходзіць у ангельскай мове. Дасюль друкаваўся ў Ватыкане па італьянску, па французску і гішпанску.

*

У незалежным палітычна Ватыкане вышэйшыя ўрадоўцы будуць назначацца толькі на 5 гадоў і тады могуць быць адкліканы, а выходзяць на эмэрытуру ў веку 74 гадоў, а ніжэйшыя ў 70 г. Тыдзень працы зьніжаны да 33 гадзін.

КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА паводле апошняе статыстыкі мае больш як 500 мільёнаў вернікаў, 352 тысячы сьвятароў і 154 тыс. парахвіяў.

*

ПАВАЛ VI 1-га траўня гаварыў аб працы, (гэта дзень Сьв. Язэпа Работніка): «Хрысьціянская навука ўважае працу за выяўленьне нармальных людзкіх здольнасьцяў, а не за нейкую кару ці нявольніцтва . . . »

«Што мы можам сказаць аб працы, якая бывае цяжкай, прыгнятаючай і толькі мае мэту

зарабіць на кавалак хлеба, або таксама служыць для ўзбагачэньня іншых? Неабходна вымагаць для працы штораз то лепшых умоваў гарантуючы справядлівую плату, якая-б рабіла працу не балючым; уніжаючым трудом, але сапраўды людзкой, вольнай, спакойнай работай, якая прыносіць працаўніку ня толькі матар'яльную карысьць, што забясьпечыць належнае жыцьцё, але таксама і карысьці духовыя і культурныя».

✳

РЫМ-ВАТЫКАН: Папа прыняў на аўдыенцыі групу ўдзельнікаў VI-га Міжнароднага Зьезду Студыяў над Старым Запаветам. Папа зьвярнуў увагу на экумэнічны характар Кангрэсу, які злучыў каталікоў, пратстантаў, праваслаўных і жыдоў: «Стары Запавет ёсьць нашым супольным дабром. Тры рэлігійныя сем'і — жыдоўская, пратэстанская і каталіцкая — ставяць яго на пачэсным мейсцы. Дзеля таго могуць разам пакланяцца і студыяваць гэтыя сьвятыя кнігі. Нават скажам, што могуць маліцца, ўжываючы тыясамыя тэксты. Якая-ж малітва на сьвеце ёсьць больш глыбокай у рэлігійным значэньні ці больш унівэрсальнай ў сваім зьмесьце і больш узрушаючай, чым псальмы?».

Далей аб Старым Запавеце Павал VI казаў: «Гэта ёсьць кніга цалкам інакшая ад усіх іншых людзкіх кніжак — кніга натхнёная, якая ўладае Аб'яўленьнем і пераказвае яго, якога далейшы працяг і выкананьне Царква бачыць у Новым Запавеце».

Сваю прамову Папа закончыў пажаданьнем Божага багаславенства, «таго Бога, які ёсьць і астаецца заўсёды Богам Бібліі, Богам нашых айцоў, Богам Абрагама, Ізаака і Якуба».

✳

АПОСТАЛЬСКІ ПАСАД даў пазваленьне ўсім бсікупам у іх дыяцэзіях, каб маглі замяняць абавязак прысутнічаць — замест нядзельнай Літургіі — у суботу вечарам. Дзеля таго, што нядзеля дае аказію турыстам ад'яжджаць у далейшыя экскурсіі, дык нельга было споўніць касьцельнага загаду ў гэты самы дзень.

✳

ПАВАЛ VI прыняў на асобнай аўдыенцыі групу баўгараў, 70 чал., што прыбылі ў Рым пад кіраўніцтвам япіскапа з патрыярхату гор. Софіі, з якім Папа гаварыў пасьля яшчэ асобна. Гэта першы раз пасьля доўгіх гадоў праваслаўная група баўгараў была ў Папы. — Павал VI меў да іх прамову, якую закончыў тым словам, што «Хрыстос, які пачаў сярод нас гэтую цудоўную справу прымірэньня, давядзе яе да канца».

Папа адправіў спэцыяльную Літургію для 3 тысяч хворых, якіх пазвозілі з розных старон. У сваей прамове заклікаў іх да малітвы і ахвяраваць цярпеньні ў інтэнцыі сапраўднага супакою на сьвеце. Казаў: «маліцеся пра супакой абаперты на шчасьці, справядлівасьці, свабодзе і братэрстве». — Гэтыя хворыя належаць да Брацтва Дабравольнага Цярпеньня, якое абходзіла 20 гадоў існаваньня.

✳

3 чэрвеня, у 5-ую гадавіну сьмерці Яна XXIII ягоны наступнік Павал VI адправіў сьв. Імшу пры яго гробе. Пасьля меў кароткую размову з роднымі Памёршага і з ягоным братам Ксавэрым. Шмат народу адведавае гроб Яна XXIII.

✳

ФРАНЦЫЯ: Першы катал. сьвятар, Ян Булёнь, у Марсыліі атрымаў новае сэрца. Гадоў 45. Апэрацыі даканаў д-р К. Дюбост і уставіў (19. V. 1968) сэрца 35-ці гадовага мужчыны. Апэрацыя ўдалася і тымчасова апэраваны пачуваўся добра.

✳

ПАРЫЖ: Адбыўся тут экумэнічны канцэрт рэлігійнае музыкі: удзельнічала 250 сьпевакоў. У гэтую групу ўваходзілі каталікі, праваслаўныя, пратэстанты і жыды. Выканалі твор Баха «Пасія паводле сьв. Матэя». Публікі сабралася больш 4-х тысяч.

У ПАРЫЖЫ таксама адбыўся XX-ты Тыдзень Каталіцкай Інтэлігенцыі. У гэтым зьезьдзе прымалі ўдзел прадстаўнікі арганізацыяў пратэстанскіх, праваслаўных і жыдоўскіх і нават ад атэістаў. Тэма ішла вельмі паважная: «Кім ёсьць Ісус Хрыстос?» Прысутнічала нямала спэцыялістаў з багасловя, эгзэгезы, гісторыі, філязофіі і літаратуры.

✳

ПАРЫЖ: На просьбу біскупаў Францыі Ватыкан дазволіў, што у касьцёлах каталіцкіх будуць магчы жанчыны спаўняць некаторыя літургічныя функцыі, як сьпяваць-чытаць Лекцыю («Апостал») і кіраваць сьпевамі вернікаў.

✳

ЛЁНДАН: На прадмесьці Ealing польскія а. Марыяны атрымалі пазваленьне адпраўляць нядзелямі дзьве Літургіі ў англіканскім касьцеле. Яшчэ некалькі гадоў таму аб гэтым нельга было-б і думаць . . .

✳

ЛЁНДАН-ВЭСТМІНСТЭР: Кард. Гінан падчас Зялёных Сьвяткоў прамаўляў у англіканскім аббацтве ў Лёндане і крытыкаваў палітыкаў сьвету, што вельмі займаюцца справай Выет-

наму, а зусім не зьвяртаюць увагі на вайну Нігерыі і Біяфры. Багачы прадаюць Нігерыі зброю, а Біяфра гіне ад голаду і разьні, якую ўводзіць Нігерыя ў занятых раёнах. — Кард. спэцыяльным лістом асьцерагаў прэмьера Вільсона і заклікаў ягоната пасрэдніцтва, каб паўстрымаць гэты канфлікт. А ў тым канфлікце згінула больш народу ў працягу 8-мі месяцаў, чым у Выетнаме за тры гады!

У Лёндане ізноў-жа тойсамы кард. Гінан выступаў з прамовай на зьезьдзе Міжнароднай Рады помачы бедным. Казаў: «Як зразумець, што поруч з людзьмі, якія жывуць у збытку і роскашы, ёсьць большасьць, якая жыве ў непамернай галечы?» Казаў, што гэта вядзе да вялізарнай жорсткай рэвалюцыі . . . Цяперашні сьвет так лучыцца з сабою, што мы жывём ня побач і ня ў суседзтве адны з другімі, але ў адным сьвеце, значыць, у адным доме.

Таксама ў Францыі падчас бунту студэнтаў, як і ў Паўдзённай Амэрыцы ды ўжо ад некалькіх гадоў і ў Індыі, — гаворыцца аб тым, што фальшывы падзел багацьця ў сьвеце даводзіць да сусьветнай рэвалюцыі. Калі цяпер на 15% сытых рэшта недаядае або зусім астаецца галоднай, — дык у 1975 г. будзе ўжо толькі 10% сытых, а ў 1985 голад і рэвалюцыя разальецца па ўсім сьвеце. —

Значыць, заходзіць патрэба неадкладна правесьці грамадзкія *рэформы.*

✳

МАСКВА: Праваслаўная Царква абходзіла 50-годзьдзе Патрыярхату ў Расеі. Ад 26. V. 1968 году да 2. VI. адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне ў Маскве і Загорску. Фактычна юбілей выпадаў у 1967, але Царква не хацела лучыць яго з сьвяткаваньнем рэвалюцыі і перанесла на гэты год.

Цар Пётр I-ы, праводзячы рэформы ў дзяржаве, скасаваў Патрыярхат і аддаў Праваслаўную Царкву пад уладу Сыноду пад кантролем свайго пракурора. Такое злоўжыцьце трывала 200 гадоў. (Цяпер, праўда, Царква вярнулася да кананічнага парадку, але Савецкі Саюз вядзе кантроль яшчэ мацней і націск яшчэ большы!).

Арганізацыя Пратэстанцкіх Цэркваў прыслала з Гэнэвы дэлегацыю у Маскву з павіншаваньнем. А Рымскі Папа Павал VI прыслаў асабісты ліст да Патрыярха Аляксея і дэлегацыю, у якую ўвайшлі арцыбіскуп з Бірмінгам, біскуп-вікарны з Парыжа і інш.

Газэта «ПРАВДА» паказвае *крызыс атэізму.* У вялікім артыкуле з Валогды, М. Другов піша: «Няхай сабе думаюць некаторыя (аб рэлігіі) штосьці, але яна ня йдзе да сьмерці. А ў некаторых месцах яна шукае магчымасьці контрофэнзывы». Ён кажа далей, што духавенства тлумачыць народу, быццам «навука паказвае толькі часткова праўду» і што толькі «рэлігія мае магчымасьць даць чалавеку візію поўную і цэласную сьвету». — Шукаючы лепшага спосабу для дзеяньня атэізму, Другов радзіць ажывіць лекцыі супраць рэлігіі, адчыняць спэцыяльныя сэмінарыі атэізму і ўвесьці падобныя да рэлігійных *цывільныя сьвяткі,* напрыклад, як кажа, «літургічнага цыклю»: сьвята «прывітаньне вясны, жніва, песьні», першага сьнегу і зімы» і інш. — І яшчэ радзіць глыбей дасьледваць рэлігійнае пытаньне, бо нельга, як было дасюль, уважаць рэлігію за праяў цемнаты ці забабону.

Дзеля гэтага дамагаюцца некаторыя залажыць спэцыяльны Інстытут для дасьледваньня ў справах рэлігіі і разьвіцьця атэізму.

✳

ГРЭЦЫЯ — АТЭНЫ: Праваслаўны архіяпіскап Геранім Котсоніс апублікаваў праграму, як абнавіць Царкву. — 1) Зьменшыць лік епархіяў: з 79-ці уфармаваць 40. Дзеля таго, што масы народу згушчаюцца ў гарадах, дык вясковыя епархіі вельмі здрабнелі. — 2. Падняць узровень духавенства: дасюль пасьвячалі на сьвятароў людзей з ніжэйшай асьветай і ім не пазваляецца гаварыць казаньняў і навет спавядаць, дык толькі ўмеюць адпраўляць службы . . . — 3) Прыцягнуць сьвецкіх людзей да бліжэйшага ўдзелу ў жыцьці Царквы, а нават вярнуць даўнейшы парадак, каб япіскапа выбіраў народ.

✳

ІНДЫЯ — КАЛЬКУТА: Скажам тут некалькі слоў аб аднэй манахіні: ейная фамілія няведамая, а ўсе тут яе называюць — «МАТКА-ТАРЭСА». Працавала 20 гадоў у Законе Лёрэтанак, якія вялі школы. Але ёй хацелася заняцца самымі найбяднейшымі дзецьмі, дык прасіла ў Ватыкане звальненьня ад законных шлюбоў, бо Лёрэтанкі прыймалі дзяцей сем'яў багацейшых. Як атрымала дыспэнсу, пачала зьбіраць дзетвару вулічнай галіты.

У Калькуце 6 мільёнаў народу, пераважна бяздомных, што прабываюць у сьлюмсах», беспрацоўных і галодных. На вуліцах родзяцца, сьпяць і паміраюць: усё багацьце носяць на сабе.

Матка Тарэса наймае за малыя грошы малую ізбу, у якой закладае школу; там на бітай зямлі дзеці сядзяць, вучацца і на зямлі той пішуць. Кніжкі атрымлівае для дзяцей ад розных дабрадзеяў і ахвяры з Індыі і заграніцы. Цяпер такіх школак у яе ўжо калькаццаць у Калькуце, а ўва ўсей Індыі — 40. Вядуць гэтыя школы супрацоўніцы Маткі Тарэсы, з якіх ужо злажыўся новы Закон «Сёстраў Місіянэрак Міла-

сэрдзя». Але ёсьць вучыцелькі і няхрысьціянкі.

Але Матка Тарэса на гэтым ня супакоілася: яна заснавала прытулак для «паміраючых», якіх зьбірае з сёстрамі з вуліцы. Стараюцца, калі магчыма, адратаваць ад сьмерці і адлячыць, аднак найчасьцей прыходзіцца даць ім магчымасьць палюдзку памерці.

Гэтая акцыя пашырылася на ўсю Індыю: заснавана такія «прытулкі ў 33-х гарадах Індыі, а таксама амбуляторыі для хворых у сьлюмсах, дзе дасюль ня было ніякай апекі — ні дактароў, ні лякарстваў. Паўсталі асяродкі для сухотнікаў і для пракажаных. — Урад Заходняй Бэнгаліі ахвяраваў вялікі пляц Матцы Тарэсе на пабудову «Мястэчка Супакою» для 400 сем'яў падлечаных пракажоных: там будуць памешканьні (па 2 пакойчыкі і кухня), таксама крамы, шпіталь і варштаты для тых, што могуць працаваць.

Сваей апекаю Матка Тарэса абыймае нявідушчых і сіротак, адным словам, усялякія людзкія «адпадкі».

У стане Кераля, на паўдні Індыі, заложаны варштаты, у якіх 350 дзяўчынак займаецца вырабам рыбалоўных сетак. Даход з гэтага назначаны на пасагі для бедных дзяўчатак, каб лягчэй іх было выдаць замуж.

Вялікая справа міласэрдзя Маткі Тарэсы ўжо выйшла з граніцаў Індыі. На Цэйлёне будыйскія манахі аддалі ёй частку свайго манастыра на амбуляторыю. Ад 1965 г. законніцы абнялі падобную працу ў Паўдзённай Амэрыцы ў Вэнэсуэлі, а чакаюць на такую самую помач Бразылія і Калюмбія. Незадоўга пяройдуць у Афрыку, дзе ў Танзаніі маюць адчыніць новы асяродак. І Аўстралія запрашае іх пачаць працу сярод аборыгенаў-нэграў.

Але Матка Тарэса мае толькі 342 супрацоўніцы, пераважна індускі. Раўналегла існуе падобнае асяродзьдзе законнікаў-братоў.

Памагаюць у працы Маткі Тарэсы людзі добрай волі — хрысьціяне і з рэлігіі гінду, а таксама і магамэтаны; нямала такіх там, што працуюць бясплатна і ахвотна. Розныя ахвяры і падарункі прыходзяць з усяго сьвету — грашамі, ежай і адзежай.

У 1964 г. Папа Павал VI падараваў Матцы Тарэсе самаход, які яму ахвяравалі амэрыканцы на Кангрэс у Бамбэю. Гэты «белы самаход» Матка Тарэса зара пусьціла ў розыгрыш — 4.000 білетаў па £ 5 (фунтаў) кожны.

Вось што можа даканаць адзін чалавек — простая, бедная, слабая жанчына! Бо яна ўзяла да сэрца даслоўнае жаданьне Ісуса Хрыста: «галоднага накарміць, голага адзець, бяздомнага прыняць . . .»

Адрас Маткі Тарэсы:
Mother Theresa, 54 A, Lower Road, Calcuta 16, India

*

ЯПОНІЯ: *«Камікадзэ»* — «Жывы Факел» — гэта сьмяротнікі, якія падчас вайны кідаліся з ракетамі і гранатамі на чужыя самалёты, на параплавы і на танкі: ішлі на пэўную сьмерць у гарачым патрыятызьме.

Адзін з такіх, Шырэда, на самалёце толькі пачынаў практыку, як японская група аэрапланаў (11) была акружана амэрыканскай перавагай. Шырэда ў самалёце ўшкоджаным амэрыканцамі зваліўся ў маладым сасонніку і быў проста цудам выкінены і адзін з усей каманды (13 чал.) ацалеў. І ў гэты-ж дзень была кінена атамная бомба на Нагасакі (9. VIII. 1945), дый вайна зара ўжо была закончана.

Шырэда з братам, з сястрой і з маткаю (бацька быў афіцэрам і згінуў на вайне) жылі на ўскраіне гор. Нагасакі. Іхні дом, як і ўсе навакол, быў зьнішчаны ад выбуху атамнай бомбы і ўся сям'я жыла ў землянцы. Але хутка пачалі будаваць самі сабе новы дамок — драўляны — з матар'ялу, які маглі здабыць пасьля руіны гораду.

Аднак уся справа затармазілася, бо ня было цьвякоў і нельга было нігдзе іх здабыць. Шырыэда адважыўся ўкрасьці ў місіянэраў-салезіянаў. Вельмі гэтым брыдзіўся, але рашыў, што ў місіянэраў украсьці можна. Бо ўся сям'я іхняя была буддыйская і да хрысьціянаў адносілася варожа.

Але плян Шырыэды праваліўся: ято злавіў адзін айцец салезіянін. Аднак, на дзіва, ня гневаўся, але даў тых цьвякоў, колькі Шырыэда мог панесьці, дый яшчэ абяцаў пасьля даць больш . . .

І гэта стала пачаткам паважных падзеяў: Шырыэда, а пасьля ягоны брат і сястра і ўканцы матка сталі хрысьціянамі.

Але тут яшчэ новая прыгода: здарыўся ў інтэрнаце айцоў салезіянаў пажар. Хлапцы выскаквалі праз вокны, але адзін астаўся чамусьці ў будынку і той самы айцец (Ронкато), які калісьці злавіў Шырыэду, а пасьля ўсіх іх разам з маткай давёў да хросту, цяпер ускочыў у полымя ратаваць няшчаснага японца! Аднак не пасьпеў даканаць ратунку і згарэў разам з тым японцам.

Тады ўзрушаны Шырыэда сказаў: «Я мушу заступіць а. Ронкато!» І сапраўды пайшоў у Закон Салезіянаў, а за ім і ягоны брат; а сястра ўступіла ў Закон Божае Маці Дапаможніцы.

Цяпер а. Ян Шырыэда (стаў сьвятаром 11. II. 1963) шыкуецца да дыплёму на доктара сьвятой тэалёгіі ў Рыме.

МЭКСЫКО-СІТІ: Сёлета падчас спартыўных алімпійскіх гульняў у Мэксыцы канчаюць будаваць касьцёл для ўсіх агульна хрысьціянскіх рэлігіяў: кажная царква будзе мець свае гадзіны для набажэнстваў. А пасьля закончаных гульняў касьцёл мае быць аддадзены каталіцкай парахвіі.

*

ПОЛЬШЧА — ПАЗНАНЬ: Тут у касьцеле аа. Дамініканаў пасьля вячорнай сьв. літургіі адбыўся дыспут аб справе трансплянтацыі сэрцаў. Касьцёл быў запоўнены народам. У дыскусіі выступалі з выясьненьнем розныя спэцыялісты: лекар, тэалёг, філязоф, юрыст і сацыялёг. Пытаньні падаваліся з народу на картачках. Дыскусія была вельмі цікавая і трывала ад 20 да 23 гадзіны, аднак ня была закончанай.

*

ЕГІПЕТ — АЛЕКСАНДРЫЯ: Тут адбылася інтранізацыя новага праваслаўнага патрыярха МІКАЛАЯ VI (Вэралёпулёс): быў выбраны на сабраньні духавенства і сьвецкіх. Папа Павал VI прыслаў яму павіншаваньне. Мікалай VI-ты лічыцца патрыярхам Егіпту і ўсяе Афрыкі.

*

ТАНЗАНІЯ АФРЫКА: Каталіцкая Царква абходзіць 100 год свайго існаваньня ў гэтай краіне. Біскупы пастанавілі выбудаваць экумэнічны касьцёл, які-бы служыў для ўсіх тутэйшых хрысьціянскіх рэлігіяў. Касьцёл маюць будаваць пры унівэрсытэце ў гор. Дар-эс-Салям.

*

ЛЕТУВА — ТЭЛЬШЫ: Савецкая агенцыя ТАСС выявіла, што тут мае быць пасьвячаны другі біскуп у Летуве Язэп Плеткус — уласна для дыяцэзіі ў Тэльшах, (УВАГА: А Беларусь не мае аніводнага біскупа каталіцкага!).

*

АМЭРЫКА: Пісьменнік Артур Д. Морсэ ў сваёй кніжцэ «Калі 6 мільёнаў людзей паміpала» апісвае, што пpалат Ангелё Ронкаллі (пасьля ён быў Папа Ян XXIII), калі быў дэлегатам апостальскім у Баўгарыі і Турцыі, уратаваў тысячы жыдоўскіх уцекачоў ад сьмерці. Яны тады зьбеглі з розных краёў у Баўгарыю (лікам да 20-ці тысяч); а Гітлер дамагаўся ад баўгарскага цара Барыса, каб яму іх выдаў. — Тады Ронкаллі і заклінаў цара Барыса, каб гэтага не рабіў! I сапраўды цар даў дазвол жыдам з транзытнай візай выехаць у Турцыю, скуль яны пасьля раз'ехаліся па іншых дзяржавах.

*

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ: Стараньнем Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы апрацавана дакумантальны фільм аб спатканьні Папы Паўла VI з Патрыярхам Атэнагарам у Турцыі ў Стамбуле. У гэтым фільме паказаны ўрачыстасьці, якія адбыліся ў Канстынопалі ў цэрквах і касьцёлах падчас гэтага гістарычнага спатканьня 25-га ліпня 1967 г.

*

ШВЭЦЫЯ — УППСАЛЯ: У ліпні г. г. адбыўся у гор. Уппсаля Кангрэс Сусьветнай Рады Цэркваў: прыбыло 800 дэлегатаў — пратэстантаў і праваслаўных. Ватыкан выслаў сваіх 15 абсэрватараў і 8 экспэртаў.

*

БРАЗЫЛІЯ: Як ведама ў Паўдзённай Амэрыцы багачы (алігархія) так уціскаюць бедны народ-работнікаў, што правакуюць страшэнную рэвалюцыю — на сваю галаву. Гэта нейкае засьляпленьне іх на згубу няшчаснага краю і народу.

Супраць гэтага моладзь, асабліва студэнты, ладзяць гвалтоўныя дэманстрацыі. Калі падчас такога хваляваньня адзін студэнт быў забіты паліцыяй, студэнты заказалі ў галоўным касьцеле жалобнае набажэнства. Але губэрнатар выдаў забарону: усё-ж студэнты ў касьцёл сабраліся і набажэнства адбылося.

Аднак, калі ўканцы студэнты выходзілі з касьцёла, дык убачылі густыя шарэнгі войска і паліцыі з аружам. Камандзір крыкнуў: «Да аружжа!» . . .

Аж зьнянацку з-за касьцёла выбегла некалька сотак сьвятароў на чале з высокім сівым пралатам і сталі між паліцыяй і студэнтамі. А той пралат цьвёрда заявіў камандзіру, што не дапусьціць да кравапраліцьця! Пасьля сьвятары ўтварылі шпалер, каб студэнты бясьпечна маглі прайсьці і разыйсьціся.

Каталіцкая прэса пісала, што ў гэтай акцыі прыймала удзел паўтары тысячаў сьвятароў, якіх загадзя таёмна склікаў арцыбіскуп. А здарылася гэта ў Ріо-дэ-Жанейро 16 красавіка гэтага году.

# Агульны З'езд згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі

У субсту 29-га чэрвеня адбыўся ў Беларускім Доме ў Лёндане 22-гі гадавы З'езд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

З'езд адной з найстарэйшых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі (ЗБВБ паўстала ў 1946 г.) з'яўляецца заўсёды важнай і радаснай падзеяй, асабліва калі гэта арганізацыя з кожным годам мацнее і пашырае поле сваей дзейнасьці. Гэта якраз паказаў апошні З'езд. З розных справаздач выявілася, што ЗБВБ не толькі ўзмоцнілася матар'яльна (агульны гадавы абарот выносіў 300 фунтаў), але і праявіла шмат актыўнасьці ў галіне культурнай і нацыянальнай — выданьне кніжкі па ангельску з нагоды 50-тых угодкаў БНР, ладжаньне святкаваньняў нацыянальных святаў, удзел у міжнародных імпрэзах, культурная дзейнасьць тыпу літаратурнага вечара Змітрака Бядулі і т. д. Ня меньш памысна развівалася дзейнасьць аддзелаў ЗБВБ у Брадфард, Бірмінгам, Лёндане і Манчастар, а таксама аўтаномных арганізацыяў пры ЗБВБ — Дапамаговага Фонду і Клюбу ў Манчастар.

З'езд удзяліў старой Управе абсалюторыюм з падзякай і перавыбраў яе ў поўным складзе. Такім чынам Старшынёй ЗБВБ астаўся сп. Павал Навара, Заступнікам Старшыні — а. Архімандрыт Леў Гарошка, Сакратаром — сп. Янка Міхалюк, Скарбнікам — сп. Павал Асіповіч.

## З ЖЫЦЬЦЯ ШКОЛЫ СВ. КІРЫЛА ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

У нядзелю 23-га чэрвеня Школа св. Кірыла ладзіла Купальскі вечар. Былі смажаныя каўбаскі, печаная бульба, гульні, песні і скокі цераз агонь да познай ночы.

У нядзелю 30-га чэрвеня адбыўся традыцыйны гадавы школьны канцэрт. Парграма была багатая і разнаякая. Быў хор, ансамбль жалеек, выступы солё акардыёну, клярнэту і скрыпкі, а таксама аркестра з праграмай клясычнай і беларускай народнай музыкі.

Ня гледзячы на цяжкасьці з транспартам (у Англіі быў у тым часе страйк чыгуначнікаў), прысутных было, як заўсёды, шмат. Асабліва прыемна было бачыць шматлікіх гасцей з паза Лёндану, якія скарсталі з нагоды прыезду на З'езд ЗБВБ, каб пазнаёміцца — некаторыя першы раз, — з Школай і ейнай дзейнасьцю.



*Група настаўнікаў і вучняў Школы св. Кірыла Тураўскага ў Лёндане*

# З лістоў у рэдакцыю

НЬЮ ЁРК: Вітаю ўсю беларускую эміграцыю, жадаючы найлепшага лёнданскага лета!

Вам добра ведама, якая ў Амэрыцы здарылася трагедыя — забойства Рабэрта Ф. Кеннэдзі, кандыдата на прэзыдэнта.

Пасьля забойства ягонага брата, прэзыдэнта Джона Кеннэдзі (22 лістапада 1963), гэтае новае злачынства ўзрушыла ня толькі Амэрыку, але і ўвесь сьвет! Прытым сьмерць Джона і пасьля ўсё судовае сьледзтва было спалучана і заблытана такімі загадкавымі падзеямі, што людзі гаварылі і пісалі аб нейкай «чорнай мафіі» — таёмнай арганізацыі, якая ніяк не дасца выкрыць і свае пляны праводзіць самым жорсткім тэррорам.

За ўсей передвыбарнай кампаняй ў Los Angeles я сьлядзіў праз тэлебачаньне: было чуваць і відаць, які быў вялізны энтузіямзм народу Каліфорніі. І вось, калі Рабэрт Кеннэдзі падчас банкету заходзіў у кухню выпіць вады, злачынная рука Шара-Шугана (кажуць, што ён — араб зь Еразолімы) пусьціла сьмяротную кулю ў галаву сэнатара.

Памёр Рабэрт некалькі гадзін пасьля цяжкой апэрацыі.

Як разыйшлася вестка аб забойстве, народ, што акружаў гатэль, дзе адбываўся банкет, страшэнна ўзбураны, пачаў дабівацца да дзьвярэй. Падняўся гоман, крык, пагрозы, а найбольш плач. Людзі аднак даліся супакоіць і бяз ніякіх інцыдэнтаў стараліся даведацца аб стане здароўя параненага Рабэрта.

6-га чэрвеня людзі — прыяцелі, сымпатыкі, а нават праціўнікі забітага — з вялікім жалем разьвіталіся з дамавінай Кеннэдзі, якога цела самалётам было перавезена ў Нью Ёрк. Тут, паміма познае пары, вялізныя тысячы народу чакалі і спатыкалі дамавіну па ўсей дарозе з лётнішча да катэдры сьвятога Патрыка ў Нью Ёрку на Пятай Авэню, дзе насупраць вялікага аўтара дамавіна была пастаўлена.

У пятніцу 7-га чэрвеня ад самае раніцы катэдра была адчынена для жадаючых разьвітацца і прайсьці міма труны нябожчыка. Чарга цягнулася на доўгі кілямэтр і заняла нямала часу, хоць на гадзіну праходзіла каля 6-ці тысяч чалавек. Усё гэта можна было бачыць у тэлевізіі: некаторыя — (бяз розьніцы нацыянальнасьці і колеру) — цалавалі дамавіну, падымаючы беражок амэрыканскага сьцягу, якім была накрытая. Іншыя толькі дакраналіся рукою, відаць было плачучых або пагражаючых, (ня ведаю, каму?). Затрымлівацца было нельга.

Катэдра была адчынена ўсю ноч і 8-га рана часова яе зачынілі, каб прыгатавацца да набажэнства. Але аб гэтым ня буду пісаць, бо ведама ўсім з прэсы. Уканцы набажэнства прамаўляў Эдвард Кенэдзі, брат Рабэрта: быў так праняты, што ня мог скончыць . . .

З вялікім гонарам правезьлі дамавіну на станцыю, каб пахаваць у Вашынгтоне побач Джона, б. прэзыдэнта.

Па ўсім шляху, асабліва на большых станцыях, тысячы людзей чакалі і спатыкалі гэты цягнік з сьцягамі, з музыкай і нацыянальнымі песьнямі.

*Б. Прытыцкі.*

*

ЧЫКАГО. 7-га ліпня 1968.

Паважаны Айцец Рэдактар!

З даручэньня В. М. прылучаю да гэтага «Монэй Ордэр» Вам на 20 дал. І паведамляю, што цяпер Біскуп Чэслаў Сіповіч каля Чыкаго візытуе а.а. Марыянаў. 29 чэрвеня, гэта ў суботу вечарам, на Пятра і Паўла адправіў у нашай царкве Хрыста-Спаса вельмі ўрачыста сьв. Літургію супольна з нашымі а.а. Тарасэвічамі, а прыслужывалі ім 4 дарослыя і малыя хлапцы. Малельнікаў было нямала, гэта значна, больш як ў кажную нармальна нядзелю.

Учора, 6-га ліпеня Біскуп вечарам гасьціў у нашых М-чоў: прыехаў з нейкім сьвятаром, відаць, марыянінам. Быў там а. М. Урбановіч, а такжа мая Спадарыня і я. Гутарылі аб усім ад 6-ай вечара да палавіны 12-ай ночы.

У наступную нядзелю, г. зн. 14 ліпеня, маецца таксама адпраўляць набажэнства ў нашай царкве і выедзе з Чыкага — падобна паедзе ў Аўстралію.

Выбачце, што нічога ня пішу, што можна было-б зьмясьціць у «БШл.», але я ня маю ні сабакі, ні ката і ні вінаграду, ні саду; а без апісаньня гэтага ня зьмесьціце!

*Я. Ч.*

Ад Рэдакцыі: Дзякуем за цікавы ліст і бачыце, што зьмяшчаем нават бяз вылічаных прадметаў. І просім ласкава падзякаваць В. М. за прысланую ахвяру.

*а. Я. Г.*

*

ВЯЛІКАЯ БРЫТАНІЯ,

В. П. Айцец Рэдактар,

Дзякую за ваш ліст з 25-га чэрвеня, у якім Вы зьвяртаецеся да мяне, каб напісаў што-небудзь у Ваш паважаны часапіс «Божым Шляхам».

Часапіс я чытаю ад самага пачатку яго існаваньня і заўседы знаходжу ў ім шмат цікавых рэчаў, паміма таго, што хоця сам каталіком ня ёсьць.

Чытаць дык гэта справа вельмі лёгкая, а каб пісаць — дык на гэта патрэбна мець пэўныя здольносьці, а такіх мне на жаль не хапае.

Паводле магчымасьцяў пастараюся аднак напісаць пару слоў пра мае адведзіны ў Лёндан. Сам я жыву ў сярэдняй Англіі і Лёндан наведваю прыблізна раз у год у сувязі з гадавой зборкай і тады здараецца нават начаваць.

У гэтым годзе я атрымаў вельмі гасьцінны начлег у Марыян Гауз, дзе жывуць а.а. Марыяны. Хаця гэты дом знаходзіцца ў Лёндане, аднак дае ўражаньне, што стаіць у вёсцы — такі вялікі агарод і такая цішыня! Гарод ёсьць добра дагледжаны і расьце ў ім усялякая агародніна. Што асабліва мяне тут зацікавіла — гэта пчолы, якіх даглядае а. Леў. А мёд такі смачны як на Беларусі!

У гародзе таксама досьць мейсца на гульні, з чаго карыстаюць хлопчыкі школы сьвятога Кірыла, якая знаходзіцца якраз цераз дарогу. І ў гэтай школе ў нядзелю па абедзе адбыўся канцэрт і было прысутных шмат людзей.

Асабліва міла было бачыць хлапцоў ад малых да вялікіх адзетых у белар. нацыянальную вопратку, якія выступалі ў канцэрце і сьпявалі па беларуску. Гэта-ж ёсьць вялікае дасягненьня, паколькі шмат з іх — гэта дзеці мяшанага сужэнства і да нядаўнага часу гаварылі дома ў іншых мовах.

Сьпеў, дэклямацыі і ігра (на скрыпках, флейтах, басе, барабане і на дудках) выклікалі ў мяне надзвычайна прыемнае ўражаньне і думку, што нямала ахвярнай працы было ўложана кіраўніцтвам школы, а таксама і хору, каб магчы было даць такі незвычайна прыемны канцэрт у беларускім жыцьці ў Англіі!

Астаюся з пашанай да Вас —

*М. Б.*

# Агляд беларускае прэсы

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ: № 9 (104), 15 — V — 1968.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ: № 10 (105), 31 — V — 1968.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ: № 11 (106), 15 — VI — 1968.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ: № 12 (107), 30 — VI — 1968.

УВАГА РЭД.:

№ 11 і 12 гаворыць аб бібліятэках у Беларусі. Цікава! У Беларусі 20,641 бібліятэка. А беларускія кніжкі выдаюцца ў тыражы ад 3,000 да 5-ці, 6-ці тысяч паасобнікаў. Дык як можна беларускімі кніжкамі абслужыць белар. бібліятэкі?!

Аказваецца, што ў Беларусі беларускія кніжкі і часапісы друкуюцца пераважна толькі для заграніцы! — Заграніцай вельмі лёгка можна выпісаць белар. кніжку, а ў самой Беларусі ня толькі трудна дастаць ці купіць, але проста немагчыма. —

Затое ў Беларусі белар. аўтараў можна лёгка дастаць па расейску. — Вось гэта значыць сыстэма «Маккіявэлы»! — І «свабода», — і махлярства, і круцельства і ашуканства...

СЯЎБІТ: Вяліка-Літоўскі (Беларускі), 1968, Травень-Чэрвень, № 63.

СЯЎБІТ: Вяліка-Літоўскі (Беларускі, 1968, Ліпень-Жнівень, № 64.

УВАГА: Ад № 64 даецца перадрук «Сьледам за Хрыстусам» Тамаша Кэмпійскага, Др. Ст. Грынкевіча — пераклад з лацінскага.

БЕЛАРУС: № 133, Травень, 1968, Нью Ёрк— Торонто.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 160, Травень, 1968, Торонто, Онтарыо.

ДУМКІ АБ СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ

БОГ АЙЦЕЦ паслаў на сьвет СЫНА,
аддаў Яго на сьмерць,
падняў Яго з гробу,
прыняў Яго ў неба.
А СЫН БОЖЫ паслаў ад АЙЦА Сьвятога ДУХА. —
А людзі ня прынялі БОЖАГА СЫНА —
свайго БОГА!
Забілі БОГА і ўцешыліся. —
Ня хочуць паверыць у СЫНА.
І ня хочуць паверыць у неба.

Людзі грашаць найгоршым грахом - супраць СЬВЯТОГА ДУХА! —

Дык няхай-жа людзі ведаюць, што, —
«Якое жыцьцё, такая сьмерць,
І такі будзе суд
І такая вечнасьць!»

# НА ПАЛЕСЬСІ

Паміж лясоў, балот палескіх
Наш дзед зямлю сабе купіў
І на прывольлі ў новым краю
Тут панам сам сабе зажыў.

А вымагаў той край ня мала
І цяжкай працы і турбот,
Але дзед з працай добра знаўся —
Не прасыхаў на плечах пот.

Турбот таксама не баяўся,
Хоць дакучаў парою зьвер:
Зьвер'я ў тым краю было мноства —
Зусім ня тое ўжо цяпер!

Зайцы прышчэпы абгрызалі,
А ліс курэй парою краў:
За тое дзед зімою ў сьцюжку
З іх хутры цёплыя здымаў.

На рыбу выдры палявалі,
А побач з выдрай жыў бабёр:
Рабіць заторы быў ён майстра, —
Жыў каля рэчак і вазёр.

Бабры і выдры жылі ў згодзе —
Ніхто з іх скаргаў не складаў;
А ўсё-ж бабёр парою плакаў. —
Чаму ён плакаў, дзед не знаў. —

Ці то ў разьліках памыліўся,
Ці грунт нядобры падабраў? —
Бывала працу раптам кідаў
І ў новым месцы пачынаў...

Былі тут ласкі і куніцы,
І гарнастаі і тхары.
Барсук у месячную ночку
На жыр вылазіў із нары.

Барсук на вотшыбе сяліўся,
З зьвярамі дружбы не вадзіў:
У сутарэньнях пад зямлёю
Як той пустэльнік адзін жыў.

І толькі часам ліс ласкавы
У барсуччы норы заглядаў:
А, як барсук дзе адхінаўся,
Ліс нешта лапкай заграбаў...

Брадзіў тут лось-рагаль, высока
І горда ўзьняўшы галаву;
Мядзьведзь лажыўся спаць увосень,
А прачынаўся на вясну.

Узімку воўк вясельле правіў:
Той час ліхі тут кажны знаў:
Як выць пачнуць, брахаць за борам,
Мароз па сьпіне прабягаў.

Жывёла жвачку прыпыняла,
У страху стрыг вушамі конь:
Бы сотні сьвечак хто раскідаў, —
З вачэй ваўкоў блішчэў агонь!

*

Шумеў тут бор стары вякамі,
Між чаратоў плыла рака,
Дрыгву балотаў пакрывалі
Лаза, ракіта, асака.

А птушак розных і ня зьлічыш —
У лесе, ў полі проста цьма!
Іх песьні толькі заціхалі
Як надыходзіла зіма.

Жылі ў затоках качкі, гусі,
Ў балоце чаплі, жураўы.
У доўгіх ботах брадзіў бусел,
Гадзюк шукаў паміж травы.

*

Дзед палюбіў той край суровы,
Яго законы вывучаў:
Птушыны сьвіст ці сьлед зьвярыны
Ляпей чым біблію чытаў.

Калі-ж надарыцца мінута —
Больш вольны выдасца дзянёк —
Браў торбу, стрэльбу, нож пры боку
І шпарка крочыў у лясок...

Драў ляда ўвесну, проса сеяў,
Зімой балота церабіў
І так у працы і змаганьні
Тут на Палесьсі й век дажыў.

Вашынгтон.

*Г. Акановіч*

# Для цікавасьці і навукі

ПАМІДОРЫ-ТАМАТЫ — «Залатыя яблыкі», прывезеныя з трапічнай Амэрыкі, найбольш з Мэксыкі. «Ні то фрукты, ні то ятады?» так іх называлі ў нас і не маглі да іх прывыкнуць. Найперш гадавалі ў гаршках, як вазоны дзеля кветак і трымалі з іншымі ў вокнах. Ледзь толькі ў палавіне XIX стагозьдзя пачалі разводзіць у гародах і ўжываць як салату. Аказаліся вельмі карысныя, бо маюць нямала пажыўных элемэнтаў і багатыя жалезам, што служыць для тварэньня чырвоных крывяных шарыкаў.

*

БАНАНЫ: Прывозяцца з гарачых краёў Афрыкі, Азіі і Аўстраліі. Вельмі карысныя і прыемныя, але толькі дасьпелыя. Затое даволі дарагія, бо ня пераносяць далёкага падарожжа і скора псуюцца. Іх вельмі любяць малпы: у момант абдзіраюць лупіну і ядуць з вялікім апетытам. Высыпаюцца на шосы з трапічных лясоў, выцягваюць да турыстаў рукі і просяць бананаў: проста не даюць праехаць самаходу! — Калі ў малайскім лесе мы праяжджалі машынай, дык уласна выскачыла вялізная грамада малых малпачак і прасіла бананаў. Малыя малпяняткі трымаліся на сьпінах матак. І вось адна малпа схапіла сваё малое ў рукі і, паказваючы нам, выпрашвала бананаў.

ЦЫБУЛЯ: Найбольш пашыраная гародніна, асабліва ў Азіі, дзе існуе да 400 гатункаў. Праўда, не зусім прыемны запах, але расьціна вельмі карысная — ня толькі ў галоўках, але і зялёная цыбуля. Гэта проста неабходная прыправа да ўсялякай ежы, асабліва ў патравах мясных. І яшчэ радзяць яе ўжываць таму, што забівае шмат шкодных бактэрыяў.

Зьвяртаецца ўвага на тое, што народы, якія ўжываюць нямала цыбулі і іншых горкіх траваў, як жыды, японцы, кітайцы — гэта якраз народы найбольш жывучыя, вытрывалыя і даўгавечныя: яны надта любяць усялякія гатункі рэдзкі, рэпы, радыскі, цыбулі, часныку і інш., якіх мы нават і назвы ня ведаем!

ХРЭН: Затое беларусы маюць нахіл ужываць надта горкую, паўдзікую гародніну, х р э н ! Нават у прыслоўе хрэн найбольш увайшоў у прывычку: «Хрэн табе ў вочы!» Ці: «Ах ты, стары хрэн!» Або: «Хрэн цябе бяры!»

Гэта, праўда, праклён больш жартаўлівы як шкодны ці злосны. Аднак паказвае, што беларусы з хрэнам зжыліся здаўна і ён, здаецца нам, неабходны для траўленьня, хаця гаспадыні яго ня вельмі ўжываюць дзеля прыкрага і вострага паху, бо «лезе ў нос і ў вочы».

### ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

К а с і я н : Чым скончыцца спрэчка ІЗРАІЛЯ з ЕГІПТАМ? Усе арабы (100 міл.), і Савецкі Саюз (240 мільёнаў) ідуць супраць Ізраіля, а іх — 3 міл. . . .

Ф а б і я н : — Ну, я гэта выясьню байкай: — Быў у лесе такі справядлівы воўк, які ня мог сасьцярпець ніякай крыўды між зьвярамі. Дык вось ён аднойчы, прабягаючы берагам рэчкі, убачыў, як меншы шчупак, схапіўшы большага — худзейшага, але даўжэйшага — стараўся яго праглынуць. У такой няроўнай барадзьбе вада іх вынесла на пясок . . .

— Убачыўшы гэтае злачынства, воўк закрычаў: «Ах, ты, малы агрэсар, я табе пакажу справядлівасць!» і кінуўся на дапамогу вялікаму шчупаку і давай малога грызьці за бакі і за хвост! — Так вызваліў няшчаснага вялікага з зубоў молога агрэсара.

К а с і я н : — Ну-ну! і што далей было?

Ф а б і я н : — А вось што: сравядлівы воўк перш загрыз малога агрэсара, а пасьля дагрыз і таго большага, каб у ранах ня мучыўся надарэмна . . . —

К а с і я н : — Дзякую за байку! цяпер я ўсё разумею.

*

К : Мяне вельмі цікавіць, чаму Савецкі Саюз — такі магутны — так непакоіцца Чэха-Славакамі? Што яму там якіясь чэхі значаць? . .

Ф . : — У тым і сэнс, што Саюз такі вялікі. А ўсе сатэліты — гэта падпоркі вялізнай будыніны: цяпер будуюць вялізныя дамы на тонкіх слупох. Дык няхай-жа слуп захістаецца — пагражае ўпадак усяму будынку; а чым дом вышэйшы, тым упадак страшнейшы; вось, значыць, саветчыкі і заляталі наўкол чэха-славакаў — то асьцерагаюць, то пагражаюць, то даюць абяцанкі-цацанкі . . .

К . : — Значыць, савецкая хатка стаіць на «курыных ножках».

Ф . : — Відаць, што яно так.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Б я д а - Н у д а — абедзьве дружкі —
Такія шкодныя дзьве птушкі:
Бяда нас звонку прыгнятае,
Нуда нам сэрца разьядае.

Бяда худая — скура й косьці —
Да нас штодзённа лезе ў госьці:
Знайшла сьцяжынку ад парогу
Аж да рэдактара самога!

Нуда — прыдзіра і нягодна,
Як ведзьма, ўсьцяж яна галодна;
Як п'яўка, так не адарвецца,
Пакуль жывой крыві нап'ецца.

Яны — варожыя дзьве сілы —
Ці-ж хоць каму быць могуць мілы?
Хто з Чытачоў, (ах, моцны Божа!),
Змагацца з імі нам паможа?

Хто «Шлях» чытае, а ня плаціць,
Той сам сябе не абагаціць:
Нас у бяду дарэмна ўводзіць —
Так усяму грамадзтву шкодзіць...

Хто-ж у супольну працу ўложа —
(Багаты-бедны, так як можа) —
Грош працавіты, так як зерне,
Затрату стогразова зьверне. —

Рэдактар Я. Г

## З Ь М Е С Т



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.